# К КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 16 (278) 26 красавіка — 2 мая 1997 г. КОШТ 2000 РУБ

ДЫСКУТУЕ•ПРЭЗЕНТУЕ•РАЗВАЖАЕ





"Анёл жа,
прамаўляючы
да жанчын,
сказаў:
не бойцеся вы;
бо ведаю, што
вы шукаеце
Ісуса
ўкрыжаванага;
няма Яго тут;
Ён уваскрэс..."

*Паводле Мацвея*
*Святое Дабравесце*

"Трэці анёл
затрубіў, і ўпала
з неба вялікая
зорка, палаючы,
нібы светач,
і ўпала на
траціну рэк
і крыніцы водаў.
Імя гэтай зорцы
палын..."

*Адкрыццё Апостала*
*Яна Багаслова*

Калаж Наталлі ОВАД

**Віншуем усіх праваслаўных вернікаў са Светлым Уваскрэсеннем Хрыстовым**

*Сустрэча ў рэдакцыі*

## СКРЫПКА АРЦЁМА

**Дзякуючы канцэртам у Швецыі 13-гадовага выканаўцы ў замежжы аздараўліваліся 900 дзяцей з Беларусі, Украіны, Расіі.**



*Чарнобыльская катастрофа — самая жахотная экалагічная катастрофа XX стагоддзя — скаланула ўвесь сусвет, прымусіла сур'ёзна задумацца насельнікаў планеты над яе будучыняй, над будучыняй нашых дзяцей і ўнукаў. Яшчэ доўга ўсім нам хадзіць па прамянях радыяцыі, а маладым сем'ям з надзеяй і жахам чакаць нараджэння сваіх першынцаў, маўляў, ці будзе маленькі чалавек здаровы, ці пазбегне "чарнобыльскай пячаткі"? Гэтае балючае пытанне будзе надзённым і праз дзесяць і, напэўна, праз сто гадоў. Ну, а пакуль робіцца ўсё магчымае па аздараўленні дзяцей — будучыні нацыі. Тое, што карпатлівая праца праводзіцца сфарміраванымі ў апошнія гады шматлікімі дзяржаўнымі і грамадскімі арганізацыямі, мы ведалі даўно, а вось што самі дзеці могуць дапамагаць і спрыяць аздараўленню сваіх равеснікаў, даведаліся толькі цяпер. Менавіта дзякуючы навучэнцу ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі Арцёму ШЫШКОВУ, 13-гадоваму скрыпачу, у замежжа на аздараўленне патрапіла аж 900 хлопчыкаў і дзяўчынак з Беларусі, Украіны і Расіі, — з рэгіёнаў, якія пацярпелі ад выбуху на Чарнобыльскай АЭС. Згадзіцеся, факт неардынарны!*

*Наша сустрэча з Арцёмам адбылася ў рэдакцыі. Да нас ён прыйшоў з педагогам Эдуардам КУЧЫНСКІМ і апекуном Віталем РАДЗІВОНАВЫМ.*

(Заканчэнне на стар.2)

№ 16 26 красавіка — 2 мая 1997 г.

ЗОРКА ПАЛЫН

*Сустрэча ў рэдакцыі*

# СКРЫПКА АРЦЁМА

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)*

*Перад тым як распачаць гаворку, хлопчыка папрасілі зайграць. Арцём з прафесійнай беражлівасцю ўзяў інструмент, і скрыпка ў яго руках нечакана "заплакала" цыганскімі напевамі, а пасля "заганарылася" ўзвышаным паланезам. І тут лёгкі недавер, які ўсё-ткі быў на пачатку знаёмства, канчаткова знік: так, перад намі быў сапраўдны віртуоз-выканаўца. Пасля такой чароўнай "уверцюры" распачалася гутарка:*



**"Культура":** Колькі гадоў было Арцёму, калі ён пачаў займацца музыкай?

**Эдуард КУЧЫНСКІ:** У пяць гадоў Арцём прыйшоў у музычную школу і займаўся ў падрыхтоўчым класе, лічыце, з таго часу мы і працуем разам. Апрача набыцця тэхнічнага майстэрства, якому надаём вялікую ўвагу, я імкнуся, каб у яго было сваё прачытанне музычнага твора. Дзеля гэтага падрабязна знаёмлю яго з біяграфіяй кампазітара, з нейкімі момантамі, якія мне здаюцца асабліва важнымі. Займаемся кожны дзень 1,5 — 2 гадзіны. Перапынкаў у занятках не робім ніколі. Я заўсёды лічыў, што няма мяжы дасканаласці ў авалоданні інструментам.

**"К":** Нягледзячы на трынаццацігадовы ўзрост, Арцём шмат выязджаў у замежжа, каб удзельнічаць у міжнародных конкурсах выканаўцаў.

**Э.К.:** Першы конкурс, на які мы патрапілі з Арцёмам, праходзіў у Вільнюсе, сярод удзельнікаў ён быў самы маленькі. Пасля мы пабывалі з ім у Чэхіі, зноў у Вільнюсе, нарэшце, у 1995 годзе ў Германіі, дзе быў вельмі сур'ёзны, з высокімі патрабаваннямі музычны конкурс, на якім Арцём заняў 4-е месца. Зараз мы зноў рыхтуемся да гастрольнай паездкі ў Германію.

**"К":** Геаграфія тваіх паездак, Арцём, даволі шырокая. Якая ў замежжы краіна найбольш спадабалася?

**Арцём:** Швецыя. Там вельмі добра сустракалі і надзвычай шчырыя людзі.

**"К":** А як ты патрапіў у Швецыю? Хто прапанаваў і арганізаваў паездку?

**А.:** Я ездзіў туды ў мінулым годзе.

**Э.К.:** Якраз у мінулым годзе быў 10-гадовы юбілей Чарнобыльскай трагедыі. Ужо не першы год там функцыянуе арганізацыя "Зорка надзеі", якая дапамагае пацярпелым ад катастрофы. Нам прапанавалі выехаць туды, каб даць шэраг канцэртаў разам з маскоўскім аркестрам. Канешне, мы з радасцю прынялі запрашэнне. І не пашкадавалі пасля. Не баюся быць неаб'ектыўным, скажу, што поспех быў каласальны. Арцём удзельнічаў у 15 канцэртах, пасля — яшчэ ў пяці на тэлебачанні. Дарэчы, там на тэлебачанне патрапіць цяжка, амаль немагчыма, а тут неяк склалася так, што нам пашанцавала. Пасля Арцёма запісалі на відэакасету, маўляў, няхай Арцём будзе ў кожным доме. Усе сродкі ад канцэртаў і відэакасет, як паведамілі нам са Швецыі, пайшлі на аздараўленне дзяцей з Чарнобыльскай зоны: 900 хлопчыкаў і дзяўчынак з Беларусі, Расіі, Украіны выязджалі ў замежжа.



**"К":** У свае гады Арцём ужо вырашае такую неабходную справу. Дарэчы, твой талент прыцягнуў увагу Співакова, раскажы пра гэта.

**А.:** Співакоў прыехаў да нас у траўні мінулага года. Тады ён паслухаў мяне, сказаў, што я вельмі добра іграю, параіў, як працаваць далей, каб іграць яшчэ лепш, нават выдзеліў стыпендыю з свайго фонду, а пазней дапамог набыць інструмент. Вось гэтую скрыпку.

**Э.К.:** А грошы на скрыпку Арцёму сабралі жыхары Швецыі. Я і цяпер добра памятаю змест суправаджальнага ліста, які яны даслалі: "Арцёму Шышкову на набыццё інструмента, вартага яго таленту".

**"К":** Такое шырокае прызнанне ў замежжы, а як склаліся твае адносіны з беларускім слухачом?

**А:** Нядаўна ў мяне былі канцэрты ў Лідзе і ў Гродне. Там вельмі добра ўспрымалі і разумелі музыку.

**Э.К.:** Ідэя правесці там шэраг канцэртаў належыць Віталю Радзівонаву. Пасля таго як Арцёма запісалі на радыё і ён прагучаў на ўсю Беларусь, адразу пасыпаліся водгукі на перадачу, сярод іх — прапанова выступіць з гастрольнай паездкай па Беларусі. Напярэдадні ў Арцёма канцэрт, які адбудзецца 29 красавіка тут, у Мінску.

**"К":** Што ў праграме канцэрта?

**А.:** Моцарт, Паганіні, Крэйслер, Чайкоўскі, Пракоф'еў, Сарасатэ.

**"К":** Праграма вартая прафесіянала...

**А.:** Так, гэтыя творы ў рэпертуары такіх вядомых выканаўцаў як Менухін і Хейфец.

**"К":** Ну, а падтрымку вы адчуваеце? Не так проста наладзіць канцэртную паездку па Беларусі, яшчэ складаней — выехаць у замежжа.

**Э.К.:** Нам дапамагаюць толькі фундатары, дзяржава нашым фундатарам у гастрольных паездках за мяжу яшчэ не была ніколі.

**Віталь РАДЗІВОНАЎ:** Аднак Арцём быў стыпендыятам Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы творчай моладзі.

**Э.К.:** Сапраўды, іншая краіна і рада была б мець столькі таленавітых дзяцей, як напрыклад, у нас, у музычных ліцэях, школах, ды іх проста там няма! Ну а калі яны ёсць у нас, то ім трэба дзяржаўная падтрымка! Я перажываю за ўсіх сваіх навучэнцаў. Бачу, што падтрымка зараз ім проста неабходная.

**"К":** Арцём, а як ты ставішся да свайго педагога, як склаліся вашыя адносіны?

**А.:** Я лічу, што мне пашанцавала. Такіх людзей, як Эдуард Віктаравіч больш і на свеце няма. У нас з ім проста сяброўскія адносіны і поўнае ўзаемаразуменне! Я вельмі ўдзячны яму за ўсё!

*Вось на гэтай ноце можна было б і закончыць. Дыктафон быў ужо выключаны, гаворка здавалася вычарпанай, але разыходзіцца мы чамусьці не спяшаліся. Прыцягвала іх адухоўленасць, настаўніка і вучня, хацелася затрымацца і пагаварыць яшчэ. Невялікую паўзу нечакана перапынілі шчырыя словы настаўніка: "Маё жыццё — гэта яны, — ён паказаў на Арцёма. — І што б у ім засталося, калі б не яны!"*

*І вось тут я паўтару ўслед за Вашым вучнем: дзякуем Вам ад нас усіх, нізкі паклон за Вашу штодзённую карпатлівую працу, за тое, што рыхтуеце музычных валанцёраў для XXI стагоддзя, ужо цяпер у дваццатым. Сёння, калі глядзіш на вашых выхаванцаў, не ўзнікае сумнення, што ў XXI стагоддзі будуць на Беларусі ўзнёсла і прафесійна гучаць Моцарт і Пракоф'еў, Чайкоўскі і Крэйслер, а Вашыя вучні будуць годна прадстаўляць нашу краіну ва ўсім свеце!*

**Алена РЫГОРАВА**

*На здымках: Арцём у абдымках маэстра Співакова. Арцём і яго настаўнік (другі справа) з супрацоўнікамі "К".*

**Фота Яўгена КОКТЫША**

# НЕ ПРОСТА

***Напэўна, гэта — лёс, а зусім не выпадковасць; унучка двух знакамітых пісьменнікаў Якуба Коласа і Янкі Маўра робіць сёння патрэбную і пачэсную справу — узначальвае дзіцячы фонд "Сакавік", які займаецца аздараўленнем дзяцей, пацярпелых ад наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Марыя МІЦКЕВІЧ — чалавек дзейсны і энергічны. Такі расклад дня не кожны вытрымае: з раніцы едзе ў аэрапорт, праводзіць дзяцей у замежжа, пасля — на мытню, вырашаць справы фонду, крыху пазней — на працу ў Скарынаўскі цэнтр і, нарэшце, дадому, дзе чакае яе сям'я. Калі мы затэлефанавалі ёй увечары, голас выдаваў стомленасць. Марыя растлумачыла: раніцай праводзіла гасцей з Ірландыі, пасля, як заўсёды, быў напружаны працоўны дзень. Але ад гутаркі ўсё ж не адмовілася.***



**— Калі ўзнік фонд "Сакавік"?**

— Прэзентацыя адбылася на 7-я ўгодкі Чарнобыля. Як звычайна, перад гэтым былі распрацаваны статут, пасля адбылася рэгістрацыя, нарэшце, "грамадскае блаславенне". Пачыналася ўсё з паездак у Амерыку. Менавіта тады нас падтрымала беларуская дыяспара, так што першыя крокі фонд зрабіў дзякуючы ёй. Паколькі мы — фонд культурнага адраджэння, імкнуліся наладжваць вечарыны, на якіх апрача цікавай праграмы былі яшчэ абавязкова і падарункі для дзяцей. Такія канцэрты часта ладзіліся і ладзяцца зараз у Малінаўцы, іншых мясцінах, дзе жывуць перасяленцы з Гомельскай і Магілёўскай абласцей. Вельмі актыўны ўдзел у такіх канцэртах прымае Людміла Дзіцэвіч. Яна якраз той валанцёр, які бярэ на сябе правядзенне вечарын, калядных святаў.

**— Якія мэты дзейнасці фонду?**

— Фонд займаецца не толькі аздараўленнем нашых беларускіх дзяцей, пацярпелых ад аварыі, галоўная яго мэта — духоўнае і культурнае адраджэнне. Мы заўсёды думалі, што "духоўны" Чарнобыль праблема такая ж важная, як і Чарнобыль фізічны.

**— Пра каго можна гаварыць як пра самых актыўных сяброў фонду?**

— Мы называем іх інакш: валанцёры, дарэчы так называюць іх ва ўсім свеце. "Сакавік" — грамадская арганізацыя, кожны з тых, хто працуе на карысць фонду, мае яшчэ і дзяржаўную працу. Я працую ў Скарынаўскім цэнтры, ёсць у нас два дактары навук, якія маюць паста-

Гэтая вечарына ў Доме дружбы, прысвечаная сустрэчы аўстрыйцаў, якія прывезлі груз гуманітарнай дапамогі, з іх сябрамі ў Беларусі, а таксама з сем'ямі, чые дзеці былі ў аздараўляльных паездках у Аўстрыі, была па-звычайнаму вясёлай, жывой і — трошачку сумнай, нібыта ў добрую, шчырую гаму сяброўскіх адносін настойліва ўплялася адна ці некалькі фальшывых нотаў.

Чатыры галоўныя "завадатары" — Готфрыд Штайнер, Карл Беран, Вільгельм Волдрых і Рудольф Ружычка — узначалілі канвой, які прывёз на Беларусь 23 тоны адзення і прадуктаў. Чатыры гады гэтыя нястомныя людзі займаюцца дабрачыннасцю, кожнае лета запрашаючы да сябе хворых дзяцей, і, хаця іхняе таварыства нешматлікае (усяго 42 чалавекі), лічбы гавораць за сябе: напрыклад, улетку 95-га года яны прынялі 42, у 96-м годзе — 20 дзяцей. Сёлета плануюць прыняць на тры тыдні зноў 20 дзяцей, апроч гэтага, запрашаюць у маі беларускую дзіцячую футбольную каманду.

Аднак на шляху развіцця дабрачыннай ініцыятывы ўсталі, як звычайна ў нас бывае, інструкцыі. "Сёлета мы ўпершыню мелі праблемы з мытняй", — сумна гаворыць Карл Беран, прадпрымальнік, які мае ў Вене невялікае агенцтва па гандлі функцыянальнымі пакрыццямі столі. — Раней, прыязджаючы, мы самі развозілі на сваіх машынах дапамогу — у шпіталь інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны, у дзіцячы дом для сірот-інвалідаў — усяго па шасці адрасах. Але цяпер гэта становіцца падобным да гандлёвай аперацыі, а гэта забівае самае галоўнае — сардэчнае жаданне дапамагаць канкрэтным людзям".

Меліся на ўвазе дзве пастановы — Міністэрства юстыцыі і Міністэрства аховы здароўя аб парадку ўвозу, захавання і размеркавання "рэчаў медыцынскага прызначэння, якія маюць характар гуманітарнай дапамогі".

Пра гэтыя пастановы ўжо пісалася ў друку — і меркаванні былі даволі супрацьлеглыя. З аднаго боку, гаварылася аб тым, што ва ўжыванні і размеркаванні гуманітарнай дапамогі шмат злоўжыванняў, што гуманітарная дапамога не даходзіць да сапраўды бедных сем'яў, а аддаецца выпадковым людзям і г.д. Што ж — не раз бывала і такое. Аднак ці здыме гэтыя злоўжыванні жорсткая па тоне і патрабавальная інструкцыя двух міністэрстваў? (Кажу — адна, бо, па сутнасці, абедзве інструкцыі — гэта аднолькавы "ўзор" нашага бюракратызму.) Мяркуйце самі. Назаву толькі два пункты з пятнаццаці, якімі павінны кіравацца ўсе арганізацыі, якія прымаюць гуманітарную дапамогу (Міністэрства аховы здароўя): "выдаткі на міжнародны і мясцовы транспарт, захоўванне і афармленне мытных дакументаў, а таксама на забеспячэнне патрэбнага захавання і апрацоўку грузаў п а в і н н ы быць аплача-

# МАРЫЯ

яннае месца працы ў Акадэміі навук: Ружа Ганчарова і Васіль Бернік. Гэта і вызначае, што мы можам займацца справамі фонду толькі ў вольны ад работы час. Арганізацыя не мае свайго офіса, мы вымушаны карыстацца хатнім тэлефонам. Але гэтыя цяжкасці мы пераадольваем, і як старшыня магу зазначыць, што ўсе валанцёры ў нас досыць актыўныя, бо чалавек з малым запасам энергіі проста не вытрымае такога стылю жыцця.

**— Колькі дзяцей штогод выязджае ў замежжа на аздараўленне?**

— Мы адпраўляем невялікія групы: 10 — 12 чалавек. "Сакавік" і не ставіць перад сабой задачы вывозіць вялікія групы. У Англіі і Ірландыі ёсць сем'і, якія кожнае лета чакаюць хлопчыкаў і дзяўчынак з Беларусі. Гэта так званыя "насіжаныя" месцы, куды "Сакавік" вывозіць дзяцей ужо колькі гадоў запар. Вынікі такіх паездак відавочныя: бацькі адзначаюць, што дзіця іх значна палепшыла стан свайго здароўя, лепш вывучае замежныя мовы, дзеці становяцца больш камунікабельнымі і цікаўнымі.

**— Ці падтрымліваюць дзеці пазней сувязь з замежнымі сем'ямі, у якіх адпачывалі?**

— Так, безумоўна! Адразу пасля вяртання дзяцей назад на Беларусь завязваецца перапіска паміж бацькамі і сям'ёй, дзе адпачывалі хлопчыкі і дзяўчынкі. Дзеці, калі пішуць лісты самастойна, то звяртаюцца да былых гаспадароў так: "Ці магу я забыцца на вас? Вы ж мае ірландскія маці і бацька!" Пасля ў нас штогод у Мінску наладжваюцца сустрэчы англічан з дзецьмі, якія адпачывалі ў Англіі. Такія вечары — у мінулым годзе падобная вечарына праходзіла ў вясні — звычайна адбываюцца эмацыянальна і цікава. Выступаюць вядомыя дзіцячыя музычныя калектывы, дзеці дзеляцца ўспамінамі пра замежжа, англічане таксама выступаюць з прывітальнымі словамі. На апошняй вечарыне прысутнічала пасол Англіі ў Беларусі Джэсіка Пірс. Гэта яшчэ раз падкрэсліла, якое важнае значэнне надае Англія дапамозе нашай краіне ў ліквідацыі наступстваў Чарнобыля.





Фотаэцюд Яўгена КОКТЫША

**— Сёлета нашы дзеці зноў выедуць у Англію і Ірландыю?**

— Зараз у нас наладжваецца сувязь з перасяленцамі з Брагінскага і Нараўлянскага раёнаў, якія цяпер жывуць у Радашковічах. Не так даўно мы наведалі іх, зараз сумесна са Скарынаўскім брацтвам рыхтуем праграму падтрымкі гэтых людзей і, канешне, плануем летам адправіць іх на аздараўленне. На сённяшні дзень больш за 2000 дзяцей прайшло аздараўленне ў замежжы дзякуючы "Сакавіку".

**— Ірландыя таксама будзе прымаць маленькіх беларусаў?**

— Сувязь з гэтай краінай не парываецца і сёння. Уявіце сабе: у Лунінцы зараз працуе, настаўнічае ў школе — выкладае англійскую мову — манах з Ірландыі. Хоць ягонае пастаяннае месца жыхарства — названая краіна, але сёння ён, знаходзячыся на Брэстчыне, дапамагае нашым дзецям. Прычым, ён не гаворыць ні на рускай, ні на беларускай мовах, і такі крок быў даволі рызыкоўным з яго боку. А самае цікавае: завуць манаха-валанцёра брат Лім. Я часта жартую з яго: ты і ўявіць сабе не можаш, які ты ў нас на Беларусі папулярны! — і паказваю чарговы нумар "ЛіМа". Брат Лім ужо трохі разумее па-беларуску, жыве ж у нас са студзеня месяца! Маім жартам заўсёды ўсміхаецца...

**— Ці паступае зараз на Беларусь гуманітарная дапамога?**

— На разе мы адмовіліся ад яе ў сувязі з новым заканадаўствам. У нас было шмат праблем, калі прыходзіла чарговая фура: сустрэць на мытні, "растаможыць", суправаджаць да бальніц або дзіцячых дамоў. А нашы замежныя партнёры не разумелі: чаму мы "прымазваемся" да іх, яны збіраюць гэтую дапамогу, яны прывозяць, а пры чым тут мы? Што, яны самі не могуць давесці да той жа бальніцы гэтую фуру? Гэтага яны аніяк спасцігнуць не маглі! Ну а цяпер, калі ўсё ускладняецца ў некалькі разоў, мы вырашылі зусім адмовіцца ад дапамогі. У нас няма вызваленых людзей у фондзе, каб маглі займацца толькі гэтай працай. Паспрабуй, складзі вопіс рэчаў, што запаўняюць усю фуру, паспрабуй, зазірні ў кожную скрыначку!

**— Што самае адметнае, на тваю думку, зрабіў "Сакавік"?**

— Усё, што мы рабілі, мы стараліся зрабіць ярка і адметна. Зараз дзвюх нашых дзяўчынак і хлопчыка аперыравалі ў замежжы, прычым аперацыі вельмі складаныя, адна з іх цягнулася 4 гадзіны. Вярнуць дзецям-чарнобыльцам здароўе, а значыць і паўнацэннае радаснае дзяцінства — вось асноўная задача фонду.

**— Няхай жа спадарожнічае поспех валанцёрам "Сакавіка"!**

**Запісала Алена РЫГОРАВА**

*На здымках: Марыя Міцкевіч (сядзіць) і прадстаўнікі фонда "Сакавік" на прыёме ў мэра горада Кардзіф. На радзіме Якуба Коласа: Даніла Міцкевіч, айцец Надсан і Марыя Міцкевіч.*

Трывога

# ЗАПАВЕДЗЬ ДАБРЫНІ — У ІНСТРУКЦЫЮ?

ныя донарскай арганізацыяй за выключэннем выпадкаў, калі іншы парадак агавораны з атрымальнікам" (разрадка аўтара. — **В.І.**). І яшчэ: "... усе ахвяраваныя лекі павінны мець тэрмін прыдатнасці не менш за адзін год з моманту іх увозу апрача лекаў, агульны тэрмін прыдатнасці якіх не менш за два гады; у гэтым выпадку павінна заставацца па меншай меры адна трэць тэрміну прыдатнасці". Ці не нагадвае гэта фантастычную карціну: вам у падарунак прынеслі торт, але замест таго, каб яго прыняць і падзякаваць за падарунак, вы выстаўляеце патрабаванне — сточка, якой перавязаны карабок, павінна быць пэўнага стандарту, а на карабку без усялякіх цырымоній вы правараеце тэхналагічныя даты. Так, здаралася, што "торт" ад нашых дабрачынцаў быў амаль сапсаваны. Але — асобны, а зусім не ўсе. Не памятаю ніводнага выпадку, калі б нехта атруціўся прывезенымі лекамі, альбо захварэў, альбо які-небудзь іншым чынам атрымаў урон ці шкоду ад гуманітарнай дапамогі. Як кажуць многія ўрачы, прывезеныя лекі "з'ядаюцца" ледзь не за тыдзень, і многія бальніцы існуюць літаральна на прывезеных з-за мяжы бінтах, інструментах, шпрыцах і г.д. Нездарма ўрач Халамерскай сельскай участковай бальніцы Гарадоцкага раёна Міхаіл Абрамавіч Самарын, прымаючы ад аўстрыйскіх дабрачынцаў ключы ад медыцынскай ратавальнай машыны, назваў гэта "здзейсненай залатой марай".




Не ведаю, ці парушыў гэты сельскі ўрач пункт інструкцыі Мінюста, дзе ўказваецца: "скрыццё апламбіраванага груза і яго апрыходванне камісіяй робіцца пры ўдзеле прадстаўніка выканкама". Але навошта аўстрыйцам быў "прадстаўнік выканкама"? Яны самі развезлі дапамогу, верачы ў тое, што ўрачы шпіталяў не пабягуць прадаваць іхнія лекі, і самі аддалі ключы ад машыны. Можа, гэта і была самая вялікая іхняя ўзнагарода — убачыць радасць на твары галоўнага ўрача ці дзяцей, якім яны прывезлі падарункі? А раптам выканкамавец скажа: дзеці гэтыя больш заможныя, у нас ёсць іншыя, але іх выберам мы самі? Асабіста я мяркую, што ўсе дзеці нашай Беларусі маюць патрэбу ў дапамозе — вітамінамі, вывазам на аздараўленне. Колькі ўжо публікацый пра тое, што здаровых дзяцей у нас амаль няма... Дарэчы, дзяржава, нягледзячы на ўсе грозныя інструкцыі, пакуль не робіць гэтага — і наўрад ці зробіць, таму што тут патрэбны, перш за ўсё, душэўны парыў і жаданне дапамагаць. Недарма ж сказаў адзін з арганізатараў аздараўлення нашых дзяцей у Італіі Тадэска Атавія: "Такое ўражанне, што вашыя дзеці больш патрэбныя нам, а не вам".

І яшчэ адзін пункт пастановы Мінюста варты таго, каб аб ім напісаць: "у выпадку адсутнасці ў суправаджальных дакументах кошту прывозімых рэчаў (уявіце, як будуць пісаць дабрачыннікі кошт часам не новых рэчаў — у рублях ці як? — **В.І.**) камісія робіць іх ацэнку ў прымяненні да кошту аналагічных рэчаў айчыннай ці замежнай вытворчасці з улікам зносу".

"Як я павінен ацэньваць кожныя калготкі ці ўжо не новую цацку, што ўсё ж, улічваючы нашыя цэны, прынясе радасць дзіцяці? І дзе ў нас на гэта час і людзі?" — сказаў мне адзін з прадстаўнікоў грамадскай арганізацыі, якая ўжо некалькі гадоў працуе з гуманітарнай дапамогай і дзякуючы якой у літаральным сэнсе выжылі сотні, а можа, і тысячы дзяцей і старых, якія не могуць набыць фантастычныя па кошце лекі або вопратку.

Гэтыя інструкцыі ўжо "адрэзалі" некаторыя дабрачынныя арганізацыі, якія не могуць (ды і не хочуць) выконваць распараджэнні нашых ведамстваў. "Мы, мабыць, у апошні раз прывозім да вас грузы", — сказаў Карл Беран. І такую ж думку выказалі многія з тых, хто ўжо прывык працаваць, каб пасля радавацца разам з людзьмі, з якімі пасябраваў тут, на Беларусі. А радасць — гэта катэгорыя духоўная, і яе, відаць, нам таксама моцна не хапае, як нестае і выканання боскіх запаведзяў, у тым ліку і запаведзі дабрыні...

Наша бяда — Чарнобыль — тым не менш надаў Беларусі і шмат сяброў і энтузіястаў з усяго свету. Можа, не варта адштурхоўваць іх, навязваць свае правілы тым, хто жыве па іншых мерках і іншымі катэгорыямі? У дзяржавы, думаецца, ёсць рычагі, якімі можна спыніць нядобрасумленныя фонды і злоўжыванні. Бо Чарнобыль жа — не акцыя, не кароткачасовае мерапрыемства. Ён яшчэ чакае — нашых дзяцей, унукаў, праўнукаў. І жахлівай трывогай найперш за іх прадыктаваныя гэтыя радкі...

**Вольга ІПАТАВА**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

# К КУЛЬТУРА
ДЫСКУТУЕ ПРЭЗЕНТУЕ РАЗВАЖАЕ

# РАДЫЕАКТЫЎНЫЯ МУРЫ

***Чарнобыльская катастрофа стала цяжкім выпрабаваннем для нашай краіны не толькі ў сферы эканомікі, экалогіі, фізічнага здароўя і псіхалагічнага стану грамадства, але і стварыла пагрозу гісторыка-культурнай спадчыне Беларусі. Небяспека навісла над многімі культурнымі помнікамі унікальнага па сваіх традыцыях рэгіёна рэспублікі — Беларускага Палесся. Патрабаваліся неадкладныя захады, каб зберагчы народныя скарбы, што засталіся на забруджаных тэрыторыях. З гэтай мэтай была створана Дзяржаўная гісторыка-культурная экспедыцыя па выратаванні помнікаў гісторыі і культуры Беларусі, пацярпелых ад аварыі на ЧАЭС. Экспедыцыя існуе ўжо шосты год. За гэтыя гады было шмат зроблена, але яшчэ шмат трэба зрабіць. З начальнікам Гісторыка-культурнай экспедыцыі Генадзем ШАРЫМ размаўляе наш карэспандэнт Серж МІНСКЕВІЧ.***

**— Якія задачы ў экспедыцыі ставілі на самым пачатку яе стварэння і якія праблемы вырашае экспедыцыя цяпер?**

— Спачатку быў створаны банк дадзеных аб наяўнасці помнікаў гісторыі і культуры ў 16 забруджаных раёнах Гомельскай і Магілёўскай абласцей. Мы працуем у трох асноўных накірунках: помнікі археалогіі, архітэктурныя і іншыя нерухомыя помнікі, фальклорна-этнаграфічная спадчына. Штогадовае натурнае даследаванне забруджаных раёнаў папаўняе банк дадзеных, фонды Чарнобыльскага аддзела Музея старажытнабеларускай культуры, значна ўзбагачае археалагічная карты Магілёўскай і Гомельскай абласцей новымі помнікамі. У адной толькі тыднёвай экспедыцыі ў Брагінскім раёне на працягу тыдня было даследавана 14 вёсак, сабрана 114 помнікаў, сярод якіх двухметровыя кадоўбы, церніца, самапраліці, прасніцы, аздобленыя размалёўкай куфар, ярмо і г.д. Багацце і разнастайнасць помнікаў уражваюць. Нават бессістэмная кампазіцыя з іх, у асноўным драўляных, а пасля дзэактывацыі чыстых, зязючых драўнінай, аздобленых ручнікамі, бела-чырвонымі ткацтвам і вышыўкай, завараджвае. Таямніца іх эмацыйнага ўздзеяння, на мой погляд, у той чыстай захаванасці народнай традыцыі, якая налічвае не адно тысячагоддзе. Сёння ў нашых фондах больш за тысячу выратаваных з-пад чарнобыльскага попелу помнікаў мастацтва, этнаграфіі, традыцыйнай народнай культуры і побыту. Нашыя памяшканні ўжо не вытрымліваюць гэтую колькасць, дый памяшканні пры Музеі старажытнабеларускай культуры таксама ўжо не адпавядаюць сучасным патрэбам.

Сама форма побытавых выработ, методыка іх стварэння сведчыць аб старадаўнім паходжанні. Можна сцвярджаць, што падобнымі прыладамі карысталіся першабытныя еўрапейцы. Таму калекцыя помнікаў этнаграфіі разам з археалагічнымі доследамі, што праводзяцца Экспедыцыяй пад кіраўніцтвам прафесара Магілёўскага педінстытута, кандыдата гістарычных навук Вячаслава Капіцына, даюць падставы для таго, каб высунуць гіпотэзу аб Беларускім Палессі як калысцы еўрапейскай цывілізацыі. Разумеючы важнасць назапашанага матэрыялу, мы выйшлі на VIII з'ездзе Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры з хадайніцтвам перад Урадам Рэспублікі Беларусь пра выдзяленне ці будаўніцтва асобнага памяшкання і стварэння на аснове фондаў Экспедыцыі Нацыянальнага музея этнаграфіі, які можа мець сусветнае значэнне. Проста дзіўна, што наша краіна дагэтуль не мае падобнага этнаграфічнага музея!

**— А што з помнікамі архітэктуры?**

— Калі побытавыя помнікі мы можам вывезці і тым выратаваць, то помнікі дойлідства, на жаль, перавезці, амаль немагчыма. Дакладней, перавезці ў адно месца можна было б, але гэта нерэальна з-за эканамічнага стану нашай дзяржавы. Мы не знойдзем столькі фінансавых сродкаў. Таму пакуль мы выяўляем гэтыя помнікі, абмяраем іх, рыхтуем чарцяжы, здымаем на фота- і відэастужку. Робім усё, каб уяўленне пра іх засталося для нашчадкаў. Але з кожным годам помнікі дойлідства буцвеюць і разбураюцца, дарэчы, як і самі вёскі.

**— Тое ж самае адбываецца з археалагічнымі помнікамі?**

— Што ж тычыцца помнікаў археалогіі, то Гомельская і Магілёўская вобласці — гэта сапраўдны музей археалогіі пад адкрытым небам. Па дзяржаўным афіцыйным рэестры ў Касцюковіцкім раёне, напрыклад, значылася 19 археалагічных помнікаў, а ў выніку дзейнасці нашай экспедыцыі зафіксавана 129. Таксама на Быхаўшчыне. У афіцыйным спісе 51, а ў нас — 232. У сувязі з тым, што гаспадарчая дзейнасць на забруджаных тэрыторыях забаронена, змяншаецца рызыка, што помнікі будуць пашкоджаны. Але паступова яны зарастаюць хмызняком і робяцца цяжкадаступнымі. Вядома, што частка тэрыторыі Гомельскай вобласці набыла статус Дзяржаўнага радыяцыйнага запаведніка, дык вось, каб папярэдзіць знікненне помнікаў дойлідства і археалогіі, мы прапануем надаць паўднёва-ўсходняй частцы Беларускага Палесся статус ландшафтнага запаведніка. Гэта створыць магчымасць сачыць за станам помнікаў і ўвогуле захаваць своеасаблівыя палескія краявіды.

**— Вядома, што Гісторыка-культурная экспедыцыя курыруе фальклорныя калектывы, майстроў народных рамёстваў, якія былі перасялены з забруджаных раёнаў. Што зроблена ў гэтым накірунку?**

— Ведаеце, людзі пераселеныя ў іншае асяроддзе, там і мова іншая. Каб зберагчы іх натуральны фальклор, мову, рамёствы, мы праводзілі відэаздымкі, запісвалі іх аповеды, размовы. Вядзецца работа па зборы матэрыялу для "Слоўніка магілёўска-смаленскіх памежных гаворак" у Чэрыкаўскім і Клімавіцкім раёнах, рыхтуюцца да выдання зборнікі зафіксаваных твораў па Гомельскай і Магілёўскай абласцях. На жаль, фінансаванне гэтых праектаў вельмі сціплае. Мы адстаем ад сваіх украінскіх калег — у Кіеве ўжо выйшаў зборнік музычных твораў Украінскага Палесся. А нам нават давялося скараціць двух сваіх супрацоўнікаў, якія займаліся падобнымі праблемамі.





**— І апошняе пытанне: якая, на Вашу думку, будучыня ў Чарнобыльскіх раёнаў?**

— Я па сваёй натуры аптыміст і думаю, што, калі нам удасца стварыць музей этнаграфіі, ландшафтны запаведнік, мы зможам захаваць тое, чым жывілася тая зямля. Мы захаваем нашыя карані, якія зноў могуць даць парасткі.

**— Дзякуй за размову. Поспехаў Вам у Вашай высакароднай працы.**

# ЧУМА

Кожны з дзесяці ўгодкаў чарнобыльскай трагедыі, што ўжо мінулі, і гэтыя, адзінаццатыя, што надышлі сёлета, абвастраюць пачуцці, успаміны і назіранні. Журналісцкая памяць захоўвае тыя факты, што былі апісаныя, і тыя, што пакуль не спатрэбіліся. Да апошніх належаць і мае ўспаміны пра вёску Барталамееўку.

Усвядоміць сутнасць "святкавання" чарговых чарнобыльскіх угодкаў можна тады, калі застанешся ў вёсцы, як з'едуць з яе лімузіны з начальствам і яго мітуслівым атачэннем. Паўзіраешся ў панурыя твары і згаслыя вочы, паслухаеш, што гавораць людзі. Паездзіш веснавым днём уздоўж зялёных палёў мёртвага Пагоннага ў Хойніцкім раёне, вёскі прыгожай некалі, заможнай, з мураванай школай, Домам культуры, аптэкай, дабротнымі дамамі і крамамі. Паходзіш па той жа Барталамееўцы, дзе засталося з дзесятак старых. Вось з кім трэба ядначацца, вось пра што шкадаваць. Напаўразбураныя, з заросламі бур'яном вуліцамі і закінутымі гародамі, вёска гэтая да выбуху на ядзерным рэактары была цэнтрам і захавальнікам найстаражытнага абраду. Прыгожага, магічнага, з глыбокім сэнсам. Ён падрабязна апісаны многімі даследчыкамі-фальклarystамі і называецца "Пахаванне стралы". Увогуле, уласцівы толькі Гомельшчыне, ён у кожнай вёсцы меў свае асаблівасці. У Барталамееўцы, у прыватнасці, ён выглядаў так: жанчыны збіраліся ў хаце і рабілі лялькку — сімвал вясны, потым з прысутных выбіралі дзвюх жанчын, якія апраналіся панам і паняю. З лялькай пасярод вялікага натоўпу вяскоўцаў ішлі па вуліцах з карагодамі. Пасля скіроўвалі на палі да жыта, ужо выстрайўшыся ў адну шарэнгу. Тут спявалі абрадную песню: "Як пушчу стралу дый па ўсём сялу..." Закопвалі лялькку-вясну, прыгаворваючы: "Ты была сёлета сухая, халодная, каб ты такая не вярнулася", і з песнямі ішлі дамоў на абед.

Ніколі ўжо не заспяваюць у Барталамееўцы, не збяруцца на Ушэсце разам усёю вёскаю. Адселеныя па ўсёй Беларусі не выйдуць на сваё свята ў чужой мясціне. А па сведчаннях навукоўцаў, гэта яшчэ ў 80-я гады была жывая традыцыя. Цяпер жа, як гаворыць кандыдат філалагічных навук, дацэнт Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Францыска Скарыны Валянцін Новак, яна ў адселеных барталамееўцаў стала пасіўнай, жыве толькі ў іх памяці і наўрад ці пяройдзе да іх дзяцей.

Гомельскія навукоўцы Уладзімір Коваль, Іван Штэйнер, Валянціна Новак сабралі цэлы зборнік "Народная спадчына выселеных вёсак". Ён падрыхтаваны да выдання, але лёс яго цяпер няпэўны: фундатарам выдання мелася быць рэгіянальнае аддзяленне Фонду Сораса... Іншых грошай і ў іншым месцы знайсці наўрад ці ўдасца.

Вось такі лёс духоўнай спадчыны палешукоў. Чарнобыльская трагедыя з яе наступствамі,у тым ліку разбурэннем культурнага асяроддзя, зрабіла многіх людзей выгнанцамі і зноў у каторы раз перайначыла лад жыцця многіх беларусаў. Грошы і энергія, якія патрэбныя для пошуку аптымальнага вырашэння праблемы, хутчэй за ўсё ў нашай дзяржаве пакуль не знойдуцца. А час мінае і незваротна страчваецца. 26-га — чарговая гадавіна. Недзе ў залах збяруцца ўлады і грамадскасць, нешта будзе сказана, уласцівае такому моманту. У вёсках старыя будуць корпацца ў агародах. Асабіста я ў каторы раз раскрыю "Чуму" Альбера Камю. Таму што для нас раман вялікага француза як дыягназ. Яго коратка сфармуляваў адзін з соцень журналістаў, што не стамляюцца ездзіць у Барталамееўку (ад Гомеля недалёка, радыяцыя на асобных участках дасягае 80 мікрарэнтгенаў у гадзіну, і людзі жывуць — зона): "Як пасля канца свету".

**Марыя ШЫМАНОЎСКАЯ,**
*журналістка*
*Гомель*

# РАБІНЗОН З ВЫСПЫ ЛІПА

Патрапіў я ў вёску Ліпа, што знаходзіцца за 38 кіламетраў ад Гомеля, на маршрутным аўтобусе. Вадзіцель доўга не мог зразумець, дзе я збіраюся выходзіць, а калі ён даўмеўся, дык быў вельмі здзіўлены. Яшчэ больш здзівіліся, даведаўшыся, што там нехта жыве.

"Патрыёт нейкі", — выказалася жанчына, што стаяла побач.

"Дом патрыёта" я знайшоў не адразу. Спачатку падыходзіў да пустых дамоў. Не перадаць словамі, якія накатваюцца пачуцці, калі бачыш пакінутыя дамы... Вецер, дождж і рып незачыненых дзвярэй. І ні крыкаў дзяцей, ні брэху сабак, нічога жывога... Дрэвы ў красавіку, натуральна, не маюць лісця, і гэта яшчэ больш узмацняе моўкнасць пустэчы.

Ужо атрымаўшы добры стос уражанняў, я нарэшце пабачыў дом адзінага гаспадара вёскі Ліпа. Памыліцца было нельга — вялізны дом, вялізная агароджа, на вокнах фіранкі. Калі я пагрукаў у дзверы і за імі ўзнік чалавечы твар, я нібы пазбавіўся жахлівага сну.

Алег Досаў аказаўся не старым нямоглым чалавекам, якім я яго чамусьці ўяўляў, а мажным, здаровым барадачом. Ён доўга не верыў, што я прыехаў да яго "аж з самога Мінска". Па словах Алега (дарэчы яму 36 гадоў), свае журналісты ягоным лёсам не надта цікавяцца, іншая справа замежнікі — з розных краін прыязджаюць. Вось дачка, якая жыве ў Гомелі і зрэдку наведваецца ў госці, была ў Нямеччыне ўжо некалькі разоў — з айчынных санаторыяў не запрашаюць.

Алег Досаў лічыць, што жыць у вёсцы Ліпа можна, таму што радыцыйны фон паменшыўся, і ў тым жа Гомелі месцамі "фаніць" нашмат мацней. Усе свае прадукты ён правярае, яны ў норме — нават можна прадаваць. Ды што казаць... калі тут жа, за домам, палі засейваюцца? Потым гэты хлеб ідзе на ўсе беларускія сталы. Атрымоўваецца нейкае незразумелае вар'яцтва. Калі тутэйшы хлеб есці можна, дык навошта было высяляць людзей — пры тым гвалтоўна? Алега Досава тэрарызавалі — каб з'ехаў — два гады. Амаль да бойкі даходзіла. Ну добра, калі так хацелі выселіць, далі б нармальную кватэру ці дом. Дык не — прапаноўваюць змарнелую хібару ў суседняй вёсцы Пыцькаўка... Але ён сваю зямлю і дом адстаяў. Тут у яго моцная гаспадарка, з якой ён мае мёд, яйкі, малако, мяса, бульбу — усё сваё.




Я глядзеў у чыстыя вочы Алега Досава і не мог паверыць у пачутае. Няўжо гэткае магчыма сёння? На погляд Алега, гвалтоўнае высяленне — дзіўная дабрачыннасць. Навошта было чапаць, лічыць ён, старых людзей, якія хацелі памерці на роднай зямлі? Па словах гаспадара Ліпы, амаль усе старыя людзі, якіх адсюль павывозілі, ужо памерлі. І гэтаму прычына, лічыць Досаў, не радыяцыя, а душэўны боль. Многія былыя жыхары прыязджаюць да сваёй зямлі, цалуюць яе і плачуць...

Алег распавёў мне, як ліквідатары знішчаюць пакінутыя дамы і нават вырубаюць яблынькі, а потым усё закапваюць. Як амапаўцы ахоўваюць зону... Не пускаюць у вёскі былых жыхароў, а самі там п'юць і прывозяць з Гомеля на гулянкі дзяўчат, патрабуюць ад ліквідатараў для сваіх машын гаручае.

Што цікава, 40 дамоў з Ліпы не пакінулі на свой лёс, не закапалі, а... прадалі. Праўда, зусім танна. І цяпер у гэтых дамах, якія перавезлі ў прыгарад Гомеля, жывуць людзі.

Нягледзячы на адсутнасць людзей у гэтых мясцінах, рыбы ў тутэйшых рэчках болей не стала, таму што наяджаюць браканьеры — ловяць сеткамі, электравудзільнямі. Барацьбы міліцыі з аматарамі рыбных грошай неяк не атрымоўваецца. Значыць, адсюль нас забяспечваюць і рыбнымі прадуктамі.

Алег Досаў асабліва не сумуе ад адзіноты, у яго ёсць сябра з суседняй выселенай вёскі, які жыве таксама адзін. Сябра зрэдчас наведваецца да яго ў госці.

Калі я вяртаўся на "папутцы" назад, дык спрабаваў разабрацца, што ж прымушае Досава заставацца ў былой вёсцы? І ўспаміналіся ягоныя словы пра зямлю, прыходзіў да высновы — трымае Досава зямля. І выселіць яго з Ліпы, гэта тое самае, што падсячы карані дрэву.

**Зміцер ВОЛКАЎ,**
**наш спецкар.**
**Фота аўтара**
*Мінск—Гомель—Мінск*

# ЖУРНАЛІСТЫ

***На гэты раз наш карэспандэнт сустрэўся са старшынёй Беларускага Саюза журналістаў Леанідам ЕКЕЛЕМ. Пагартаўшы апошнія нумары газеты "Культура" з публікацыямі цыкла размоваў з кіраўнікамі творчых саюзаў краіны, ён сказаў: "Справа вельмі патрэбная. Толькі быў бы вынік..."***

**— Леанід Сямёнавіч, аб чым Вы больш за ўсё шкадуеце?**

— Сёлета мне споўнілася 50 гадоў. І, ведаеце, калі я гляджу на сваю бібліятэку, з любоўю сабраную за доўгія гады, мяне ахоплівае шчымлівы сум. Таму што тых гадоў, што мне засталіся, мабыць, не хопіць, каб яе прачытаць. Кожная кніга захоўвае цеплыню маіх далоняў...

**— А якая ў Вас сям'я?**

— У гэтым сэнсе, дзякаваць Богу, мне пашчасціла. У мяне цудоўная жонка-філолаг, яна працуе карэктарам у газеце "Вечерний Минск", два цудоўныя сыны: адзін ужо зусім дарослы — адслужыў у арміі, другі вучыцца ў архітэктурна-будаўнічым тэхнікуме.

**— Сапраўды, на гэтым "фронце" ў Вас усё ў парадку. Цяпер давайце звернемся да нашых прафесійных справаў. Я ведаю, што Саюз журналістаў — самы буйны ў краіне творчы саюз...**

— Менавіта так. Нядаўна ў складзе нашай арганізацыі было каля трох тысяч чалавек, сёння — дзве тысячы дзвесце...

**— Чаму такі "адліў"?**

— Бадай, гэта адзін з нямногіх саюзаў, які вырашыў трошку "пачысціць" свае шэрагі. Аднак гэты працэс цалкам натуральны: некаторыя з нашых сяброў адышлі ад творчасці, яны былі больш скіраваны на пэўныя льготы, якія наш Саюз прадастаўляў у свой час. І мы вызваліліся ад такіх "сяброў" без усялякага шкадавання.

**— За кошт якіх сродкаў існуе Саюз?**

— Раней была дакладная структура, згодна з якой Саюз заўсёды меў грошы, Масква давала пэўныя датацыі, ды і самі мы штосьці зараблялі. І, адпаведна, таксама і нашым абласным арганізацыям прапарцыянальна размяркоўвалі гэтыя сродкі. Цяпер мы не маем буйных грашовых паступленняў. Няма і дзяржаўнай падтрымкі.

**— Ці засмучае гэта Вас?**

— Нічога падобнага! У гэтым, я перакананы, ёсць свае перавагі. Перавагі такога кшталту, што табе як журналісту нікалі не сорамна асвятляць тую або іншую сітуацыю такой, як яна ёсць на самой справе. А калі ты знаходзішся ля пэўнай "кармушкі", дык... Карацей, нават не кожны сабака ўчэпіцца ў руку гаспадара, які яго корміць. Я, магчыма, выказаўся грубавата, але прынцып у мяне такі. Дзякаваць Богу, мы не адчуваем гэтага ціску і сумленна адстойваем прынцыповыя пазіцыі журналістаў. Як у свой час адстойвалі, напрыклад, правы галоўных рэдактараў некаторых газет, звольненых з пасад у выніку сумна вядомых палітычных складанасцяў. Але гэта — наша нармальная, штодзённая праца...

**— Вернемся да сродкаў існавання Саюза журналістаў.**

— Добра... Нашыя абласныя арганізацыі жывуць, у асноўным, за кошт членскіх унёскаў: мы не залічваем гэтыя грошы на рэспубліканскі рахунак. Гэта не такія ўжо вялікія сродкі, але тым не менш... Мы ж самі жывём з прыбыткаў ад выдавецкай дзейнасці, якая, праўда, цяпер робіцца праблематычнай...

**— Што гэта значыць?**

— Мы выдавалі кнігі. У прыватнасці, кнігу "Не убить человека" на рускай і нямецкай мовах. Гэта публіцыстыка высокага грамадзянскага гучання. Апошняя кніга выдадзена летась. Яна называецца "Три я" — пра акцёрскую дынастыю Яроменкаў.

**— А газета "Вдохновение"?**

— Гэта газета Саюза журналістаў і адначасова Беларускай канфедэрацыі творчых саюзаў і культурных фондаў, віцэ-прэзідэнтам якой я з'яўляюся. Газета, на жаль, выдаецца рэдка.

**— Чаму?**

— Па-першае, з прычыны фінансавых складанасцяў. Па-другое, газета не мае свайго рэдакцыйнага калектыву. Тут працуе ў асноўным галоўны рэдактар.

**— Леанід Сямёнавіч Екель...**

— Так, тым не менш чатыры нумары сёлета зробім абавязкова. Чарговы выйдзе ў свет 5 траўня. Ён практычна ўжо падрыхтаваны...

**— Я ведаю, як цяжка зарабляць грошы творчым саюзам. Добра, калі хтосьці мае ўласную маёмасць, тады можна частку яе здаць у арэнду. Вы ж не маеце маёмасці...**

— На шчасце, Вы не маеце рацыі. Летась Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь сваім рашэннем перадаў нам гэты невялікі будынак, дзе мы цяпер з вамі знаходзімся. Пяць гадоў мы змагаліся за яго, і тады нам ніхто не дапамог... А цяпер мы — гаспадары. І гэта гучыць ганарова...

**— А ці няма ў вас спонсараў?**

— Няма і не будзе. Я не веру ў спонсараў. Гэта проста магчымасць набыць чыесьці душы. Гэта кепска і брыдка. Я настойліва падкрэсліваю, што ніякіх стасункаў з палітычнымі партыямі, з апазіцыяй, з супер-дэмакратамі мы не маем. Я лічу, што ўсялякае "прымешванне" да палітыкі практычна можа знівеліраваць Саюз журналістаў, зрабіць яго нейчай паслухмянай цацкай. Таму нам цяжка, складана, але — сцісні зубы і — працуй! Мы хочам быць вольнымі і ніякага падсілкоўвання ад партый, фондаў, у тым ліку і Сораса, нам не трэба. Паўтаруся: хай душы нашыя застануцца чыстымі.

**— Я ведаю, што Вы наладжваеце традыцыйныя штогадовыя фестывалі беларускай журналістыкі. Калі такі фестываль адбудзецца сёлета?**

— Мы перасунулі ягонае правядзенне на канец чацвёртага квартала. Чаму? Чакаем, што да гэтага часу атрымаем свой, новы Дом журналіста. Гэта — каля універсама "Рыга".

**— Я чуў розныя версіі наконт ягонага функцыянальнага прызначэння...**

— Тлумачу. З самага пачатку Мінскі гарвыканкам прыняў рашэнне аб тым, што мы захоўваем права на валоданне зямлёй. Але, натуральна, ні гарвыканкам, ні дзяржава сродкаў на будаўніцтва не выдаткавалі. Калі ў 1990 годзе кантарыс складаў 1 мільён 232 тысячы рублёў, дык, мабыць, вы можаце сабе ўявіць, колькі гэта сёння?! Гэта ж мільёны долараў! Таму была выказана дакладная ўмова: трэцяя частка плошчаў належыць нам, а астатнія — тым, хто будуе гэты дом.

**— А што будзе з дамком, дзе мы цяпер гутарым?**

— Тут застанецца Сакратарыят Саюза. А там, у Доме журналіста, на трэцім паверсе, будуць: творчыя майстэрні для маладых журналістаў, актавая зала, канферэнц-зала, утульнае кафэ, дзе мы можам збірацца, наладжваць сямейныя ўрачыстасці, юбілеі і да т.п.

**— Нядаўна ў Мінску з'явілася БАЖ — Беларуская асацыяцыя журналістаў. Што гэта — паралельны Саюз альбо альтэрнатыўная арганізацыя?**

— У яе склад увайходзяць некалькі дзесяткаў былых сяброў нашага Саюза. Чым прадыктавана з'яўленне Асацыяцыі? Яе сябры лічаць, што ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі працуюць людзі, нібыта "ніжэйшыя" за іх па сваіх прафесійных вартасцях. Часткова, напэўна, у гэтым ёсць своя горкая праўда. Часам у мяне проста апускаюцца рукі, калі бачу ў друку яўна замоўныя, прымітыўныя артыкулы, скажам, у абарону пэўнай высокай асобы альбо ўладнай структуры.

**— Дык якая ж мэта новастворанай Асацыяцыі?**

— На нас, на нашыя маральныя, грамадзянскія пазіцыі ніхто не павінен уплываць. Тая ж БАЖ існуе, яна юрыдычна законная і — хай сабе працуе. А што да журналістаў-хамелеонаў, дык яны паўсюль ёсць, на жаль. Маё стаўленне да іх адназначна адмоўнае. Мяне сёння як старшыню Саюза больш турбуюць праблемы, як дапамагчы журналістам-ветэранам, якія апынуліся ў гаротным становішчы. Я цалкам перакананы, што надыдзе той дзень, калі нікому з іх мы не адмовім у дапамозе, таму што грошы ў нас будуць. Мы іх заробім, і ў гэтым нам дапаможа Дом журналіста, нашае сумленне і гонар.

**— Я чуў, што сёлета не будзе набору на факультэт журналістыкі БДУ...**

— Інфармацыя недакладная. Усё застаецца ў сіле. Праўда, ішла гаворка пра тое, што не трэба зачыняць дзверы перад людзьмі, якія ўжо маюць вышэйшую адукацыю, але хацелі б атрымаць і журналісцкую. Да гэтых людзей патрэбны асобы падыход, нестандартны, нетрадыцыйны.

**— Я ведаю, што з журналісцкімі кадрамі асабліва складана ў абласцях.**

— Сапраўды так. Той жа Брэст або Магілёў рыхтуюць гэтыя кадры на філфаках сваіх педінстытутаў. Вядома ж, я разумею, што выпускнікі факультэта журналістыкі БДУ любой цаной хочуць застацца ў Мінску. І мала таго: патрапіць



не столькі ў дзяржаўныя выданні, колькі ў камерцыйныя, дзе плацяць больш. Усё гэта можна растлумачыць, але неяк трывожна на душы...

**— Якое ж выйсце?**

— Распрацоўваем праект стварэння Цэнтра сучаснай журналістыкі з далучэннем мэтраў пяра; мы будзем ствараць у Доме журналіста сетку творчых майстэрняў па падрыхтоўцы маладых кадраў.

**— Журналісцкая этыка. Што гэта, на Вашую думку?**

— Пытанне істотнае. На апошнім з'ездзе журналістаў быў прыняты Кодэкс прафесійнай этыкі. Дакумент надзвычай важны і неабходны. З аднаго боку, нам патрэбны быў нейкі збор маральных законаў для журналістаў, а з другога, як вы ведаеце, па краіне пракацілася хваля судовых працэсаў па іскам аб знявазе гонару і годнасці. А колькі яшчэ суддзяў, якія не могуць патлумачыць, што ж гэта такое — гонар і годнасць! Наш дакумент з'яўляецца своеасаблівым тлумачальным дапаможнікам.

**— Якія рэальныя пазітыўныя крокі зроблены ў гэтым накірунку?**

— Вы першы атрымліваеце наступную інфармацыю: мы ўжо заручыліся падтрымкай Вярхоўнага суда краіны ў тым, што наш Кодэкс будзе апублікаваны з каментарыямі Вярхоўнага суда і разасланы ва ўсе судовыя інстанцыі.

**— Адбываецца шмат судовых працэсаў, на якіх проста няёмка прысутнічаць з прычыны дробязнасці ўздымаемых пытанняў...**

— Так, менавіта таму ў нас створаны Камітэт па прафесійнай этыцы на чале з публіцыстам, прафесарам БДУ Барысам Стральцовым. Камітэтам распрацавана палажэнне аб тым, каб многія з такіх іскаў не прымаць у суд, а спачатку разглядаць іх у Камітэце... Безумоўна, ёсць рэчы, якія мы, журналісты-прафесіяналы, успрымаем вельмі балюча. Мне крыўдна, калі мой калега, які выконвае свой прафесійны абавязак, можа апынуцца ў міліцыі. Гэта грубае парушэнне Канстытуцыі, і за гэта праваахоўныя органы павінны адказваць.

**— А як Вы ставіцеся да так званага "іншадумства" на старонках перыядычных выданняў?**

— Гэта вельмі складаная і балючая тэма, тэма вольнага выказвання свайго пункта погляду, — але яно, гэта выказванне, усё ж неабходнае, нібы паветра. Калі непаважна ставіцца да меркавання, якое не супадае з пазіцыяй афіцыйнай, будзе кепска. Будзе духоўная пустэльня. І наш Прэзідэнт, на мой погляд, з разуменнем ставіцца да гэтай праблемы. Ён задае рэзоннае пытанне: чаму вы лічыце, што я за тое, каб вакол мяне былі толькі людзі, якія глядзяць у рот і ліслівяць? Карацей, ёсць дамоўленасць аб тым, што Прэзідэнт сустрэнецца з прадстаўнікамі нашага Саюза.

**— Сёння споўнілася адзінаццаць гадоў Чарнобыльскай трагедыі. Ці звязаны Саюз журналістаў з постчарнобыльскімі праблемамі?**

— Безумоўна. У нас ёсць Асацыяцыя журналістаў-чарнобыльцаў, — вельмі дзейсная, згуртаваная і мабільная. Яе штаб-кватэра знаходзіцца не ў Мінску, а менавіта ў зоне радыяцыйнага забруджання, у Краснаполлі. І ўзначальвае яе былы рэдактар газеты "Голас Краснапольшчыны", а сёння намеснік старшыні мясцовага выканкама, Фёдар Ганчароў. Асацыяцыя зрабіла шмат добрых спраў, і мы яе падтрымліваем, з'яўляючыся своеасаблівым пераходным мастком паміж ёй і Дзяржкамчарнобылем.

**— Я ўзгадваю цудоўную фотавыставу "Беларусь сам-насам з Чарнобылем"...**

— Так, яна карысталася поспехам. У рэшце рэшт мы яе перадалі аднаму буйному фонду ў Нямеччыне з умовай, што эквівалентам кошту выставы будзе аздараўленчы адпачынак у Нямеччыне нашых дзяцей з сем'яў журналістаў, пацярпелых ад Чарнобыля. Дарэчы, хацеў бы адзначыць газету "Вечерний Минск", якая бясплатна перадала Брагінскай раённай газеце камп'ютэрную тэхніку. Хіба гэта не журналісцкая салідарнасць?

**— Які Ваш самы апошні твор як журналіста?**

— Нядаўна скончыў артыкул пра незвычайнага чалавека — Васіля Сяргеевіча Малагушу, які семнаццаць гадоў правёў у ГУЛАГу і ў гэтай "вечнай мерзлаце" здолеў захаваць мужнасць і веру ў чалавечую дабрыню. Нам усім так гэтага не хапае — Веры ў Дабрыню...

**— Плёну і поспехаў Вам.**

**Гутарыў Барыс КРЭПАК**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

# НЕКАТОРЫЯ ДУМКІ ПРА ПРЭСУ І ЖУРНАЛІСТАЎ...

***Кажуць, што прэса з'яўляецца люстэркам грамадскага жыцця. І кожны мае права даваць сваю ўласную ацэнку ёй і яе аўтарам. Вядомыя ў гісторыі асобы таксама не заставаліся ў баку, адгукаючыся кожны па-свойму на працу журналістаў. Іншы раз гэтыя выказванні былі сур'ёзнымі, іншы раз іранічнымі, а часам і саркастычнымі. Вось некаторыя з іх.***

Калі б прэсы не існавала, яе не трэба было б і ствараць. Але калі ж яна ўсё-ткі існуе, дык нам не застаецца нічога іншага, як змірыцца з гэтым. *(Анарэ дэ Бальзак, французскі пісьменнік.)*

У краінах, дзе існуе свабода друку, ёсць, зазвычай, і іншая свабода: газеты могуць не публікаваць тое, што не падабаецца іхнім выдаўцам. *(Этарэ Мароні, італьянскі журналіст і пісьменнік.)*

Друк — своеасаблівая зброя, гэта — артылерыя мыслення. *(Сімон Балівар, венесуэльскі палітык і генерал.)*

Свабодны друк бывае, безумоўна, добрым і кепскім. Але без свабоды ён можа быць толькі кепскім. *(Альбер Камю, французскі філосаф і пісьменнік.)*

Свабода друку — гэта заваёва свету. *(Уільям Эварт Гладстоўн, англійскі палітык.)*

Увогуле, ніхто так не клапоціцца пра свабоду друку, як тыя, хто хоча злоўжываць ёю. *(Іаган Вольфганг Гётэ, нямецкі пісьменнік.)*

Ніхто не павінен імкнуцца стаць журналістам, каб толькі пісаць альбо рабіць палітычную кар'еру. Тым больш спрабаваць перарабіць свет. *(Джозеф Пуліцэр, амерыканскі выдавец і палітык.)*

Журналіст — гэта такая прафесія, калі чалавек адну палову часу разважае пра тое, чаго ён не ведае, а другую палову маўчыць пра тое, што яму вядомае. *(Анры Беро, французскі пісьменнік.)*

Журналіст можа прынесці ў рэдакцыю ўсё, але з умовай, што можа гэта і вынесці. *(Жуль-Габрыэль Жанэ, французскі пісьменнік і крытык.)*

Сапраўдны журналіст добра тлумачыць тое, што сам не ведае. *(Леа Лонганезі, італьянскі пісьменнік і журналіст.)*

Добрыя журналісты пішуць тое, што думаюць, а лепшыя — тое, як павінны думаць іхнія чытачы. *(Жорж Элгазі, французскі эканаміст і палітык.)*

Праца журналіста складваецца, перадусім, з аддзялення зерня ад шалупіння. І, безумоўна, каб апублікавана было менавіта шалупінне. *(Элберт Хабард, амерыканскі пісьменнік і гісторык.)*

Звычайна журналісты пішуць таму, што ім няма чаго сказаць. Але часам кажуць і пра тое, што напісалі самі. *(Карл Краўс, аўстрыйскі пісьменнік і журналіст.)*

Якая розніца паміж журналістыкай і літаратурай? Артыкулы журналістаў незразумелыя, а літаратура нечытэльная. *(Оскар Уайльд, англійскі пісьменнік.)*

Да ўсяго вышэйзгаданага дададзім хаця б два неафіцыйныя азначэнні прэсы.

"Жоўтая прэса" — нізкай вартасці, хлуслівая, прагная да рознага кшталту сенсацый. Сам гэты выраз узнік у ЗША. У 1895 годзе Рычард Аўткоўлт змясціў у газетах шэраг фрывольных малюнкаў з гумарыстычным тэкстам. На адным з малюнкаў была выява дзіцяці ў жоўтай кашульцы, якому прыпісваліся розныя смешныя выказванні. Неўзабаве паміж дзвюма газетамі ўзнікла спрэчка, каму належыць права першынства на "жоўтага хлопчыка". І таму ў 1896 годзе вядомы журналіст Эрвін Уордмэн назваў абедзве газеты-канкурэнткі "жоўтай прэсай".

Існуе і "рэптыльная прэса" — хабарніцкая, прадажная, што ў карыслівых мэтах ліслiва выказвае чыесьці меркаванні (ад слова "рэптылія" — жывёла, якая поўзае). Гэты выраз упершыню ўжыў Бісмарк у 1867 годзе.

**Факты да друку падрыхтаваў**
**Іван ШПАДАРУК**

# СВЯТАЯ ВЯЛІЧКА

Вялікдзень — старажытнейшае свята таямнічых абрадаў. Пераасэнсаваць і разгадаць многія іх сакрэты паспрабавалі ў Беларускім універсітэце культуры.

З кожным годам усё вастрэй і вастрэй перад беларускай грамадскасцю паўстаюць праблемы захавання, падтрымкі і развіцця традыцыйнай культуры. Найкаштоўныя здабыткі беларусаў, а гэта не толькі сакрэты народнага рамяства і мастацтва, але і абрады, згодна з якімі жылі нашы продкі, адыходзяць у нябыт. Пытанню, як захаваць, як падоўжыць жыццё скарбам традыцыйнай культуры, было прысвечана выязное пасед-



жанне Міністэрства культуры, што адбылося сёлета ў Лепелі, — пра гэта наша газета ўжо паведамляла. У атмасферы той нарады лунала думка, што акрамя працы па захаванні і кансервацыі ўсяго, што наш народ перадаваў з пакалення ў пакаленне, трэба вынаходзіць новыя, хай і незвычайныя формы папуляцыі традыцыйнай народнай культуры. Як прыклад, у Лепелі была паказана драматычная дзея "Каса — дзявочая краса" — даволі ўдалае спалучэнне народных сямейных абрадаў з паказам мод.

Падобным шляхам пайшлі ў ансамблі сцэнічнай харэаграфіі пад кіраўніцтвам Вольгі Бяляевай у Беларускім універсітэце культуры. Праўда, на гэты раз за аснову былі ўзяты не сямейныя абрады, якія яшчэ часткова захоўваюцца і выконваюцца ў вёсках, напрыклад, падчас вяселля, а абрады, што ўжо зніклі з нашай зямлі, і тыя, якія трансфармаваліся ў гульні, забавы, прыгаворы, часам не вельмі зразумелыя для сучаснага чалавека.

На пачатку красавіка на сцэне мінскага клуба імя Ф.Дзяржынскага прайшоў канцэрт. У першым аддзяленні было паказана сцэнічна-абрадавае вакальна-пластычнае дзейства па матывах веснавых старажытных абрадаў і рэлігійных свят. На вытанчаную мову харэаграфіі былі пакладзены гульні і рытуалы нашых продкаў, сцэны натуральна перацякалі адна ў адну, стваралі сакральнае відовішча, заварожвалі і ўцягвалі ў яго публіку. Ніхто ў зале не быў проста назіральнікам, кожны быў саўдзельнікам.

Калі скончылася першае аддзяленне, глядач, напэўна, адчуў шчымлівы сум — няўжо зноў вяртанне да сучаснасці, чаму гэтак хутка праляцеў час выступлення? Хаця і паказана было не мала, вось некаторыя назвы мізансцэнак:"Скора Вялічка, скора Вялічка!", "Прайшоў Хвядот — ураджай на ўвесь год","Як сустракалася зіма з Аўдуськай-вясноўкай?", "Камаедзіца — пакланенне мядзведзю", "Страсная вербніца", "Пасха — Святая Вялічка!!!", "Будзем яйкі біць?", "Свянцоныя яйкі", "Варажба на Андрыяна ноч", "Ахвярапрынашэнне пеўня", "Гром, гром, гром — выйдзі гром!". Проста не верылася, што стварала харэаграфію да іх моладзь — студэнты 320-й групы універсітэта. А дапамагала ім кіраўніца ансамбля Вольга Бяляева.

Другое аддзяленне канцэрта склалі пластычныя замалёўкі на сучасную тэму "Роздум аб сённяшнім жыцці", створаныя таксама студэнтамі, але ўжо 420-й групы. Іх выступленне як бы перакінула масток ад мінулага да нашага надзённага, дзе пануюць шалёныя рытмы і тэхнакратычнае святло. І, шчыра кажучы, шмат у чым гэтая шалёная сучаснасць прайграе наіўнай павольнай старадаўнасці.

— Працуючы над дзействам "Вялікдзень на Беларусі",—гаворыць Вольга Бяляева, — адчуваеш еднасць з зямлёй на якой жывеш. Але матэрыял давялося збіраць літаральна па драбніцах, з розных кніг, фільмаў, а гэта вымушае ашчадна ставіцца да кожнай звесткі аб народных абрадах. А спалучыць усё ў адно дзейства дапамагла, безумоўна, фантазія... І энтузіязм студэнтаў. Моладзі цікава танцаваць як сучасныя танцы, так і абрадавыя, але ў апошнім выпадку маладыя людзі выяўляюць разуменне адказнасці перад сваімі продкамі.

**С.М.**

*На здымку: Вольга Бяляева з удзельнікамі ансамбля сцэнічнай харэаграфіі.*

# "СЕРАБРО І ЗОЛАТА" УЛАДЗІМІРА ТОЎСЦІКА



Такая назва адной з карцін гэтага здзіўляючага мастака, які любіць серабрыста-блакітнае неба, жоўта-аранжавыя дрэвы і старажытныя замкі памяці нашага маленства, над якімі вечна плывуць гукі музыкі, таямнічай і спакойнай.

Гэтая выстава, наладжаная ў мастацкім цэнтры "Жыльбел", называецца "Водгук". Водгук... Чаго? Мабыць, душы мастака, сканцэнтраванай не толькі ў асабістым стаўленні да таго велізарнага і складанага свету, які аўтар асэнсоўвае і адлюстроўвае, але і ў своеасаблівай пластыцы жывапісу і ў вечным пераадоленні "прастаравых" бар'ераў.

Мастацтва Уладзіміра Тоўсціка не простае, яно не падпарадкоўваецца лёгкаму, "літаратурнаму" пераказу сюжэтаў альбо тэм. Мастак віртуозна "гуляе" з гледачом, апелюючы да ягонага розуму, ведаў і нервовых канчаткаў, дасягаючы пры гэтым надзвычайных светлавых і колеравых эфектаў.

Аднак своеасаблівае "зіхаценне" ягонага жывапісу, безумоўна ж, з'яўляецца нібыта фокусам, як месяц Куінджы альбо знакаміты чэхаўскі аскепак бутэлькі. У гэтым — загадка майстэрства Тоўсціка, які з чарадзейнай лёгкасцю мяняе сваю палітру ў залежнасці ад пластычных задач і кола праблем, звязаных з пошукам чалавека ў ягоным сусветным атачэнні, і, у прыватнасці, у настальгічнай урбаністычнай аўры.

Шмат гадоў таму, вырваўшыся з ланцугоў "сацыялістычнага рэалізму", Тоўсцік з задавальненнем распрацоўвае ў жывапісе сваю, асаблівую лінію, якую б я назваў пост-традыцыяналізмам. У гэтым пост-традыцыяналізме ён знайшоў сваю свабоду — свабоду выказвання ўласнага болю і шчасця, уласных разваг пра духоўны шлях, што чалавецтва прайшло ад свайго нараджэння да канца другога тысячагоддзя, пра таямніцы сусвету, метамарфозы прасторы і часу, любові як рухаючай сіле духоўнай эвалюцыі чалавека. Любоў да метафары, сімвала, алегорыі працінае ўсю творчасць мастака. У ягоных творах "вобраз" не малюецца, не выяўляецца, а "лунае". Бо калі ружа не мае водару, дык і легенда пра яе хараство тае, цямнее. Ад палотнаў Тоўсціка патыхае менавіта гэтым водарам і цеплынёй, яны дыхаюць, уліваюцца ў душу таямнічымі, нябачнымі на першы погляд ручаінкамі.

І мы, сцяўшы дыханне, пазіраем, як вершнік у старажытных латах, гэты "лятучы галандзец" на кані, пад гук гадзінніка-лёсу здзяйсняе свой адвечны марафон, які не мае ні пачатку, ні канца. І люстра ў паціне часу, і чырвоныя цуглі каня — яны таксама адтуль, з глыбінь памяці.

"Лунаюць" у прасторы жанчыны з веерамі і без іх, "плывуць" ноты, у блакітным міражы знікае яшчэ адзін вершнік, белыя і залатыя месяцы моўчкі пазіраюць на старажытныя гарадскія аркі і ратушы, кветкі дораць свае пахі і гучаць лютні, скрыпкі і віяланчэлі. І маўклівы мастак перад мальбертам... І белы месяц на палатне, і мадэль — Яе Вялікасць Жанчына...

Уяўленне Тоўсціка вельмі рухомае, чаму спрыяе ягоная натрэніраваная памяць пачуццяў. А гэтае ўяўленне заглыблена ў інтуіцыю — адвечны інструмент творчасці. Адсюль — імперсанальнасць палотнаў, вытанчаная, шматслойная стылістыка, ад якой часам "патыхае" то веласкесавай пластычнай яснасцю, то п'ерадэляфранчэскавай вытанчанасцю, то трывожнай музыкай мітуслівага сённяшняга дня...

Іншымі словамі, пластычная форма ў Тоўсціка — паняцце не толькі структурнае, але і маральнае, яно нагадвае пра духоўную высакароднасць творцы-філосафа. Гэта — натура Майстра. Натура цэласная і адначасова няўрымслівая, поўная сумненняў, якая вечна імкнецца наперад, нібыта той самы лятучы Вершнік...



**Барыс КРЭПАК**

*На здымках: Уладзімір Тоўсцік. У.Тоўсцік. "Самотная муза". Палатно, алей.*

**Фота Яўгена КОКТЫША**

# "ТУТ МАЕ КАРЭННІ..."

Гадоў пятнаццаць таму для адной з газет я напісаў артыкул пра творчасць Уладзіміра Стальмашонка пад назвай "У зямлі наша карэнне..." Не ведаю, ці гэта проста супадзенне, але сваю персанальную выставу ў Чэрвеньскім краязнаўчым музеі мастак назваў "Тут мае карэнні". Тут — гэта значыць, на зямлі Міншчыны, на зямлі Ігуменшчыны, дзе жылі продкі Уладзіміра Іванавіча і дзе жывуць сённяшнія Стальмашонкі...

Дваццаць два творы народны мастак прадставіў на суд сваіх землякоў, сярод іх "Партрэт Якуба Коласа", "Партрэт калгаснага старшыні К.П.Гарулі", "Партрэт бацькі, хірурга І.М.Стальмашонка", "Партрэт ветэрана працы, ганаровага жыхара Чэрвеня С.М.Стальмашонка" (дзядзькі мастака), карціны "Радня", "Каляды", "Кірыла Тураўскі і Сімяон Полацкі", а таксама новыя творы.



Галоўны герой творчасці У.Стальмашонка — людзі, соль беларускай зямлі, няпростае іх жыццё, поўнае трывог, драм і вечных надзей, жыццё, цалкам адданае сваёй айчыне.

Асноўная якасць усіх палотнаў мастака — індывідуальны, асабісты пачатак, прыўзняты над рэальнасцю вобразнага свету, у якім сімволіка спалучаецца з зямной канкрэтнасцю, дакладная сілуэтнасць з абагульненасцю пластычных форм, дэкаратыўнасць "арнаментальнага", народнага ладу з "зашыфраванасцю" рэалій быцця...

Уладзімір Іванавіч за кароткі час знаходжання ў Чэрвені стварыў пастэльную сімвалічную кампазіцыю "Крыж Багдановіча", дзе адлюстраваў аўтара "Вянка" з бацькамі — Адамам Ягоравічам і Марыляй Апанасаўнай, а таксама пастэльны натурны партрэт заслужанага настаўніка Леаніда Камароўскага. Абодва творы народны мастак падарыў музею.

Выстава працягнецца да канца траўня.

**Б.К.**

*На рэпрадукцыі: У.Стальмашонак. "Партрэт хірурга І.М.Стальмашонка". Палатно, алей.*

<u>*Працяг тэмы*</u>

# ШКЛЯНКА ВАДЫ ЗА 35 ТЫСЯЧ

*(Рэпартаж з "Рэактара")*

У № 14 за г.г. "Культура" закранула праблему жыцця-быцця маладзёжных клубаў ("Альтэрнатыва адпачынку на траіх"). У развіццё тэмы наш карэспандэнт наведаў яшчэ адзін сталічны клуб — начны бокс-клуб "Рэактар".

Гэты стыльны клуб застаецца адным з самых модных у сталіцы — нягледзячы на флёр "разборак", іншы раз нават з летальным вынікам, якія там мелі месца. Ліхое адценне, на жаль, часта маюць усе больш-менш модныя месцы адпачынку. Але менавіта тут часам праводзіць сваё "Каралеўскае паляванне" найбольш абаяльная з беларускіх тэлежурналістак Каця Дзямчук. Тут апошнім часам здымае свае праграмы для адзінокіх дамаседаў "спадарыня Фітнэс" — Наталля Наважылава. І тут дзве гадзіны ляжаў на падлозе пад дуламі АМАПа Андрэй Губін, самы малады рамантык расійскай эстрады, канцэрт якога прыйшоўся на час адной з кантрольных праверак. Менавіта цікавая праграма эстрадных выканаўцаў адрознівае "Рэактар" ад большасці іншых клубаў і дыскатэк. У "Рэактары" перабывалі "Иванушки интернешнл", "Чай вдвоём", "А-студио". Тут "выступаюць" (інакш гэта і не назавеш) найбольш вядомыя "дзі-джэі" Мінска і нават Масквы, "выліваючы" на наведнікаў фантаны сваёй энергіі і фантазіі.

А яшчэ "Рэактар" адрознівае стыль, пачынаючы ад назвы, якая для беларусаў пасля Чарнобыля мае спецыфічна-"моднае" гучанне, і вонкавага выгляду — масіўны бетонны куб, вельмі падобны да чарнобыльскага "саркафага", што высунуўся ўпоперак вуліцы Веры Харужай, — да інтэр'ера чорна-барвова-чорнай двухузроўневай залы з падвешанымі да столі на сталёвых ланцугах (як баксёрскія мяхі) магутнымі гукавымі калонкамі. А вось металашукальнік на ўваходзе — гэта ўжо не дызайнерскі "навaрот", а даніна бяспецы. Клуб быў заснаваны ў мінулым годзе аднадумцамі, так ці інакш звязанымі з боксам ці наогул з рынгам. Барвовы рынг і з'яўляецца галоўным элементам інтэр'ера, адначасова і эстрадай, і месцам спартыўных боек, што таксама тут адбываюцца — паміж баксёрамі, кік-баксёрамі і іншымі адзінаборцамі. Але галоўным чынам забаўляльная праграма для наведнікаў мае менш жорсткі характар. Па словах дырэктара клуба Андрэя Сундукова, знойдзены стыль у афармленні музычных праграм будзе захоўвацца і надалей — гэта дыскатэчныя вечарыны з мясцовымі ці запрошанымі дыска-жакеямі, якія ідуць уперамежку, раз на месяц ці два, з выступленнямі выкшталцоных зорак замежнай (часцей — расійскай) эстрады. Клуб супрацоўнічае з маскоўскімі і мінскімі прадзюсерскімі фірмамі, найбольш актыўна — з "Залатой пчалой". Менавіта належны ўзровень, падобны да большасці маскоўскіх начных клубаў, дазваляе запрашаць да сябе самых ушанаваных і "модных" зорак — не без цяжкасцяў, вядома ж. Напрыклад, кожная запрошаная з Масквы зорка абыходзіцца "Рэактару" значна даражэй, чым калегам у сталіцы Расіі, бо трэба аплаціць дарогу і ўладкаванне. Зрэшты, менавіта "дзі-джэі" з маскоўскай FM-станцыі "106,8" апошнім часам вызначаюць музычнае становішча ў клубе. Як кажа дырэктар, "ні на "Радыё-Роксе", ні на "Бі-Эй" сапраўдных "дзі-джэяў" няма, ёсць вядучыя. Сучасны "дзі-джэй" — гэта спецыяліст, які добра арыентуецца ў стылях музыкі, фармуе ў адпаведнасці з гэтым свае праграмы, часам нават прадзюсіруе тых ці іншых выканаўцаў. Менавіта такія "дзі-джэі" працуюць на "FM-106,8" і час ад часу — у "Рэактары".

Клуб, як і належыць, мае сваіх заўсёднікаў. "Ёсць хлопцы, якім больш нічога не трэба, яны, відаць, тыдзень працуюць, каб потым за два дні тут усё прыгожа патраціць. Клуб начны, і на працягу ночы кліенты прыходзяць "хвалямі" — а першай гадзіне, потым — у тры, у кожнага свой час. Да нас наведваецца публіка ва ўзросце ад семнаццаці і старэй. Апошнім часам спрабуем рабіць штосьці і для дзяцей — вядома ж, удзень. Гэта — і дыскатэкі з пазнаваўчымі конкурсамі, і студыі для дзяцей — накшталт расійскай "Ранішняй Зоркі".

Што да перспектываў, то... "Дзень пражыў, і дзякуй Богу", — горка ўсміхнуўшыся, кажа спадар Сундукоў. У клубе ён на ўласныя вочы бачыць збядненне нават сваёй нябеднай публікі. "Калі раней бармэн прасіў кліентаў забраць рэшту, то зараз наведнікі не саромеюцца часам і нагадаць яму." З прычыны абяднення меламанаў праблематычнае і больш шырокае разгортванне канцэртнай дзейнасці. "Цяпер запрасіць выканаўцу любога класа для нас не праблема, той-сёй вопыт дазваляе сцвярджаць з упэўненасцю, што да нас аднолькава ахвотна прыедуць і "Моральный кодекс", і Роберт Майлз. Дастаткова прагледзець расклад выканаўцы — напрыклад, у Інтэрнэце — і вы-

*Шоу працягваецца*

# СТАЛІЧНЫ ЎЗРОВЕНЬ АБЛАСНОЙ ФІЛАРМОНІІ

Магілёўская абласная філармонія ў красавіку адзначае сем гадоў свайго існавання. З самога пачатку яе ўзначальвае вядомы музыкант, сябра Саюза кампазітараў Беларусі Уладзімір Веніямінавіч Браілоўскі. Здавалася б, справа філармоніі — кіраваць музычным жыццём вобласці — і толькі. Аднак магіляўчане пайшлі далей: ужо два гады многія з найбольш цікавых гастроляў на Беларусі адбываюцца дзякуючы ім. Варта прыгадаць "Віртуозаў Масквы", мужчынскі хор Маскоўскай Патрыярхіі і безліч зорак эстрады — ад Андрэя Губіна да Валерыя Лявонцьева і нават легенды дыска — "Боні-М". Менавіта намаганнямі Уладзіміра Браілоўскага нарадзіўся і зазіхацеў "Залаты Шлягер" — міжнародны конкурс маладых выканаўцаў, які таксама праходзіць другі год запар.



Сёлета ў чацвёрты раз магілёўская філармонія праводзіць для жыхароў абласнога цэнтра фестываль "Магілёўская музычная вясна". На адкрыцці 18 красавіка пад кіраўніцтвам італьянскага дырыжора П'ера Анжэла Пелучы ўпершыню прагучала араторыя "Месія" Гендэля. Але фестывалем не вычэрпваецца самабытнасць канцэртнай афішы філармоніі. Якраз сёлета яе дырэктар адзначыў свой паўвекавы юбілей. Да гэтай даты прымеркаваныя два аўтарскія канцэрты — 5 мая з твораў камернай музыкі і 22 мая — эстрадны, на які запрошаны знакамітыя выканаўцы з усёй Беларусі. Магчыма, водгулле гэтых канцэртаў пачуюць і ў Мінску.

Два гады ў сталіцы паспяхова працуе адміністрацыйны "дэсант" магілёўскай філармоніі. Яўген Яршоў удваіх з памочніцай выконваюць працу, роўную па аб'ёме працы вялікай канцэртнай установы. Але на жаль, мала хто з адміністратараў ставіцца з большай пагардай да прадстаўнікоў прэсы — відаць, гэта радзімыя плямы "саўковай дзяржаўнасці" (бо філармонія была і застаецца дзяржаўнай установай). Таму, напэўна, выдатная, амаль узорная для іншых абласцей канцэртная актыўнасць магілёўскай філармоніі да гэтай пары не знайшла адпаведнага асвятлення на старонках друку.

І ўсё ж такі твар установы вызначае яе дырэктар. Як зазначыў спадар Браілоўскі, метады, якімі даводзіцца працаваць, не заўсёды бясспрэчныя, аднак — эфектыўныя, і таму — апраўданыя. Дзякуючы канцэртным турам, якія праходзяць звычайна праз некалькі гарадоў Беларусі, у тым ліку праз сталіцу, і жыхары абласнога цэнтра далучаюцца да культурных скарбніц. У сваёй канцэртнай дзейнасці магілёўская філармонія абыходзіцца, дарэчы, без фінансавай дапамогі спонсараў. "Інфармацыйныя спонсары" існуюць, але сродкі філармонія і зарабляе, і траціць сама — можа, у гэтым і сакрэт поспеху? Натуральна, што кошт білетаў вызначаецца з улікам аўдыторыі, з улікам "сацыяльнага статуса" патэнцыяльных гледачоў. Аднак і на самым прэстыжным канцэрце побач з месцамі коштам у мільён (якіх, напрыклад, у канцэртнай зале "Мінск" на 1300 месцаў не больш за сто) ёсць і месцы па чатырыста і дзвесце тысяч, таму сярэдні кошт не такі ўжо і "завоблачны". Вядома ж, гэта не танна, але добры "тавар" заўсёды мае адпаведную цану. За апошні год магіляўчане "перавазілі" праз Беларусь амаль увесь "першы эшалон" расійскай эстрады. Нават Іосіф Кабзон у сваім развітальным туры з удзячнасцю прыняў дапамогу сп. Браілоўскага. З апошніх канцэртаў варта прыгадаць імёны суседзяў па афішы, аднафамільцаў, але розных па стылістыцы і сацыяльнай заангажаванасці Ігара і Барыса Маісеевых, 20 і 21 красавіка адпаведна. А на май запланаваны канцэрты групы "Любэ", Ларысы Долінай і — другі год запар — "Віртуозаў Масквы". Шоу працягваецца!

**Ігар КЛОКАЎ**

# БЕЛАРУСЫ Ў НІЖНЯВАРТАЎСКУ

З вышыні дзесяці тысяч метраў не толькі лёгка чытаецца тапаграфічная карцінка мясцовасці, што разлеглася ад Заходняй Сібіры да Цэнтральнай Еўропы, але і многія жыццёвыя праблемы паміж Расіяй і Беларуссю, якія на зямлі выглядаюць цяжкапераадольнымі. Так падумалася мне ў самалёце, калі я вяртаўся з камандзіроўкі ў Ніжнявартаўск, куды быў запрошаны ў якасці кансультанта-мастацтвазнаўцы для суправаджэння выставы беларускіх мастакоў. Яшчэ некалькі месяцаў таму ідэя арганізацыі такой выставы ў глыбінцы Расіі (не ў цывілізаванай Заходняй Еўропе!) за тры з паловай тысячы кіламетраў ад Мінска без фінансавага забеспячэння дзяржаўнымі структурамі здавалася марнай задумкай. Але, дзякуй Богу, прайшлі тыя часы, калі выключна ўсё ў такіх справах залежала ад чыноўнікаў. Знайшоўся чалавек, які аператыўна, падзелавому вырашыў арганізацыйныя пытанні, і вынік не прымусіў сябе чакаць — выстава адбылася.

Імя яго — Уладзімір Салаўёў. Карыстаючыся сучасным жаргонам, яго можна было б назваць "новым рускім беларусам". Дзяцінства і юнацтва прайшлі на Віцебшчыне, тут жа ён атрымаў спецыяльнасць інжынера-будаўніка. Амаль пятнаццаць гадоў з сям'ёй жыве ў Ніжнявартаўску. Праявіўшы выключную працаздольнасць і прадпрымальнасць, здолеў адкрыць "сваю справу". Зараз да вытворча-будаўнічай дзейнасці ІПП "Кампаніі Салаўёва" дадалася яшчэ і галерэйная справа. Хаця ён не спецыяліст у мастацтве, лічыць, што жыццё чалавека не павінна адрывацца ад духоўных, эстэтычных каштоўнасцей.

Экспазіцыя выставы складалася з твораў жывапісу, графікі і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва пятнаццаці аўтараў. Творы некаторых беларускіх мастакоў і раней траплялі ў Ніжнявартаўск, аднак дагэтуль падобных выставаў з "блізкага замежжа" тут



не праводзілася. Жывапісныя творы розных стылістычных кірункаў паказалі добра вядомыя ў Беларусі майстры пэндзля: Ягор Батальёнак, Віктар Ціханаў, Уладзімір Масленікаў, Васіль Касцючэнка, Уладзімір Капшай і інш. Звярнулі на сябе ўвагу гледача пачуццёва-пранікнёныя лірычныя краявіды Аляксандра Кошалева. Папулярнасцю карысталіся ганчарныя вырабы Лявона Панамарэнкі і яго вучня Кастуся Цітова, студэнта Беларускага універсітэта культуры, габелены Ады Салохінай, інкрустацыя саломкай Таццяны Дзенісенка.

Першымі і найбольш актыўнымі наведнікамі выставы былі нашы землякі. Дарэчы, нашага братабеларуса тут не мала. Многія ехалі ў Сібір на пару гадоў падзарабіць, ды там і прыжыліся. Не абышлі ўвагай гэтую падзею мясцовыя электронныя і другія сродкі масавай інфармацыі, адзначыўшы добрую тэндэнцыю ва ўзаемаўзбагачэнні нашых народаў творчымі здабыткамі ў сферы мастацтва.

Пры ўсёй значнасці праведзенай акцыі выстава па сваім статусе не выходзіла за межы "групавой". І разглядалася яе арганізатарамі і гарадской адміністрацыяй пробным крокам у наладжванні творчых, мастацкіх сувязей Мінска і Ніжнявартаўска. Сваю задачу выстава выканала. А далей...

**Уладзімір РЫНКЕВІЧ**

*На здымку: У.Рынкевіч. "Жарптушка". Акварэль.*

# ВЫЙШАЎ З "МАЛАДНЯКА"

У мінскай сярэдняй школе № 92 функцыянуе і з кожным днём узбагачаецца школьны літаратурна-этнаграфічны музей "Спадчына", створаны ў канцы 1980-х гг. з дапамогай Аб'яднання дзяржаўных літаратурных музеяў Беларусі.

У сакавіку ў гэтай школе адбылася арганізаваная музеем Петруся Броўкі літаратурная сустрэча беларускіх пісьменнікаў з настаўнікамі і вучнямі, прымеркаваная да 85-х угодкаў нараджэння земляка Броўкі — Тараса Хадкевіча, вядомага пісьменніка, заслужанага работніка культуры Беларусі. У гэты дзень школу наведалі народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін, вядомы беларускі пісьменнік Алесь Савіцкі, празаік і паэт Яўген Каршукоў, сын Тараса Хадкевіча — дырэктар Аб'яднання дзяржаўных літаратурных музеяў Леанід Хадкевіч, літаратуразнаўца Міхаіл Пратасевіч, які дапамагаў школе ствараць музей. Вось якія ўражанні пакінула ў гасцей наведванне экспазіцыі новастворанага музея. Іван Шамякін: "Многія фотаздымкі 50-х гадоў Тараса Хадкевіча, Анатоля Астрэйкі, Антона Бялевіча, Мікалая Ткачова я пабачыў тут упершыню". Далей Іван Шамякін у сваім выступленні расказаў пра Тараса Хадкевіча як пра яркую творчую асобу. Падчас свайго выступлення Алесь Савіцкі ўспамінаў аб асабістым знаёмстве з Хадкевічам, Яўген Каршукоў прыгадваў цікавыя факты з яго літаратурнай біяграфіі. Напрыканцы сустрэчы слова ўзяў сын пісьменніка Леанід Хадкевіч. На вечарыне выступалі таксама вучні старэйшых класаў СШ № 92.

**Марыя СТАФАНОВІЧ**



Чэмпіянат Брэста па бальных танцах у чатырох узроставых катэгорыях прайшоў у абласным Доме дзіцячай і юнацкай творчасці. Паўтары сотні ўдзельнікаў прадстаўлялі вядомыя ў СНД цэнтры, дзе паспяхова развіваюцца бальныя танцы: Мінск, Гомель, Наваполацк, Чарнігаў, Луцк, Калінінград.

*На здымку: чый танец лепшы?*
**Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.**

браць зручны час. Мы б хацелі арыентавацца на больш прасторныя, чым наша, канцэртныя пляцоўкі, на вялікія канцэртныя залы. Але ж сёння запаўняльнасць любых канцэртаў не перавышае 60 працэнтаў, у большасці людзей няма грошай, каб дазволіць сабе добрае відовішча."

На развітанне я яшчэ раз агледзеў стыльны інтэр'ер "Рэактара", прысеў ля адной з люстэркава-зіхатлівых барных стоек, такім чынам павярнуўшыся да другога боку клуба, які адначасова і "барэстаран першай нацэнкавай катэгорыі". Заказаў мінералкі і падрыхтаваўся не здзіўляцца любым словам бармэна. Але, напэўна ж, змяніўся ў твары, калі той, хуценька распячатаўшы бляшанку і пераліўшы яе змесціва ў стэрыльначыстую стыльную шклянку, аб'явіў, проста гледзячы мне ў вочы: "Трыццаць пяць тысяч". Падумалася: як я яшчэ мала і дрэнна працую, калі, завітаўшы калі-нікалі ў начны клуб, магу сабе дазволіць толькі шклянку вады. І як цяжка і ўмела, відаць, працуюць тутэйшыя заўсёднікі!

**Ігар КЛОКАЎ**

# СПЕКТАКЛЬ, ЯКІ ХОЧА ЖЫЦЬ

Вось ужо 11 гадоў аддзяляе нас ад той страшнай Чарнобыльскай трагедыі, якая стала вядомай усяму свету. І пройдуць яшчэ гады, дзесяцігоддзі і нават стагоддзі, а гэты боль не заціхне ў душах нашых суайчыннікаў і знойдзе нязгасны адбітак у будучых пакаленнях. Так, асноўны ўдар чарнобыльскай катастрофы прыняла на сябе Беларусь. І тым не менш жыццё працягваецца, жыць трэба, трэба па вясне і сеяць нам, беларусам. Жыве і вечна жывая традыцыя беларускага народа ва ўсім мастацкім праяўленні. Таму яшчэ з нагоды 10-х угодкаў агульначалавечай бяды пастановай калегій Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Міністэрства па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, Праўлення Беларускай Асацыяцыі Чарнобыльскіх арганізацый "26 красавіка", выканкама Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў вырашана правесці ў Мінску 20 — 21 красавіка 1996 года Рэспубліканскі фестываль народнай творчасці "чарнобыльцаў" з мэтай падтрымкі і стымулявання развіцця і прапаганды лепшых узораў народнага мастацтва ў раёнах, пацярпелых ад аварыі на ЧАЭС.

Мне як сцэнарысту і рэжысёру-пастаноўшчыку мінулага фестывалю даводзілася праглядваць шэраг мастацкіх калектываў і асобных выканаўцаў па ўсёй Беларусі, не застаўся без увагі спектакль па п'есе Васіля Ткачова "Усміхаўся месяц белай вішні" ў пастаноўцы Гомельскага абласнога драматычнага тэатра, які прысвяціў гэты спектакль 10-годдзю Чарнобыльскай трагедыі. Тут варта адзначыць, што менавіта Гомельскі тэатр, адзіны з прафесійных тэатраў Беларусі, звярнуўся да гэтай балючай надзённай тэмы, калі не браць пад увагу яшчэ некалькі аматарскіх тэатраў.

Бывае, часам задаю сабе пытанне, ці кранае мяне чарнобыльская тэма? І тут жа адказваю на яго. Кранала, кранае і будзе краніць і ў наступныя гады. Ды і не толькі мяне, а сотні, тысячы, мільёны маіх суайчыннікаў.

Кранае да глыбіні душы і спектакль па п'есе Васіля Ткачова "Усміхаўся месяц белай вішні", увасоблены рэжысёрам Уладзімірам Караткевічам. А пачынаецца ён з квітнеючай вішні, ажывання вясновай вясковай прыроды. Квітнеючая жыццёвая сіла поіць зямлю, якая гаючым сокам напаўняе дрэвы, кветкі, кожную травінку. А на кантрасце ўсяго гэтага "Зона бяды" — трывожная назва, горкая рэальнасць беларускай зямлі, яе куточкаў, гарадоў, мястэчак, вёсак і хацін. Здаецца, назва спектакля даволі паэтычная, але за гэтай паэтычнасцю мы бачым чалавечую адзіноту — лёс вясковага жыхара Ігната, ветэрана вайны, у якога памерла жонка, сын загінуў у Афганістане, ён застаўся адзін у сваёй хаце. Шмат цяжкіх жыццёвых выпрабаванняў не абмінулі Ігната, а тут яшчэ высяляюць, абсякаюць апошні корань. І вось Ігнат звяртаецца да свайго жытла. "Пакінуць сваю хату, месца, дзе мая пупавіна закапаная ў зямлі. Я ж тут кожны куточак ведаю, тут кожная травінка размаўляе са мною як жывы з жывым". Узнікае міжволі пытанне. А колькі такіх Ігнатаў па Беларусі, якім Чарнобыльская бяда падсекла карані, праўда, некаторыя з іх вярнуліся ў свае наседжаныя ранейшыя мясціны, каб загаіць іх, каб зноўку яны прыжыліся да сваёй зямелькі. Але ж ці прыжывуцца яны?

Заслужаны артыст Беларусі Фёдар Іваноў, выканаўца ролі Ігната, галоўнай ролі ў спектаклі, праводзіць маналог пераканаўча з жыццёвай верай і праўдай. Артыст не толькі на сцэне, але і ў звычайных жыццёвых абставінах тонка і душэўна адчувае гэты агульначалавечы боль, боль перасяленцаў. Гэта відавочна назіралася пры нядаўняй нашай сустрэчы: калі мы распачалі гаворку пра гэтую балючую тэму, то ў Фёдара Мікалаевіча тут жа наплывалі слёзы на вачах. Яўна адчувалася яго неабыякавасць да гэтай тэмы не толькі як артыста, але і як чалавека, беларуса, грамадзяніна.

"Калі мы выязджаем з гэтым спектаклем, — кажа Фёдар Іваноў, — у забруджаныя радыяцыяй раёны Гомельшчыны, я бачу вясковыя хаты, якія пазарасталі травою, быллём. Тады ў мяне шчыміць сэрца, што яны асцірацелі".

Стаяць яны адзінокія, маўклівыя, як сведкі жахлівай бяды, у вокнах якіх ужо ніколі не ўспыхне вячэрні агеньчык чалавечага цяпла. Тут жа зноўку варта звярнуцца да маналога галоўнага героя спектакля Ігната. "Вось, кажуць, запаліліся новыя вокны для перасяленцаў, а колькі іх патухла. Ды што яны значаць, гэтыя чужыя вокны? А хто зямлю, зямліцу нашу ратаваць будзе?" Рашуча і непахісна адказвае Ігнат сакратару райкама Кудасаву, калі той упарта настойвае на яго высяленні: "Мы ж перамрэм, як мухі, перадохнем, калі не навучымся гаварыць адзін аднаму праўду. Праўду ў вочы". Так, трэба пагадзіцца з героем драматычнага твора. Сапраўды, ад каго мы яе хаваем? Гэта ж наша праўда. Хаця яна горкая і балючая, але наша. Увесь свет нам пра гэта гаворыць, а мы, беларусы, імкнемся забыцца пра яе. Таму трэба біць у мільёны званоў і нагадваць балючую праўду нашай Беларусі. І крычаць, на ўсю моц. Людзі, памятайце, што такое атам. Каб такое больш не здарылася на нашай зямлі і ва ўсім свеце.

Аўтар п'есы драматург Васіль Ткачоў інтуітыўна, сваім сэрцам адчуў боль перасяленцаў. У п'есе прасочваецца яго грамадзянская турбота за старых, маладых, дзяцей, жаночую долю. Ён праўдзіва перадае трывогу тых людзей, якія не па сваёй волі пакідаюць гнёзды і, як тыя птахі з падбітымі крыламі, ляцяць віць новыя, што ніколі для іх ужо не стануць роднымі.

Акрамя Ф.Іванова ў спектаклі заняты яшчэ шэраг артыстаў тэатра ў першым і другім саставе: В.Беднашэя, С.Лагуценка, В.Шчарбакоў, Я.Канькова, Г.Шырокшына, Г.Вевер, Ю.Марціновіч, А.Рубцоў, А.Бычкоў.

Спектакль характэрны не толькі сваім драматызмам чалавечага лёсу і болю, але і насычаны народнымі камедыйнымі элементамі. І гэтую непасрэдную прастату, народнасць артысты ўдала перадаюць гледачу. Нездарма ж аўтар п'есы вызначае жанр твора як трагікамедыю.

**Мікола МАКАРЦОЎ**

*Звернемся да Біблії*

# "Я ВЕРУ Ў БОГА!"

***Сёння гэты сказ, без боязі быць незразумелым, можа сказаць ледзь не кожны. Але, нягледзячы на ўздым цікавасці да рэлігіі (храмы ж адчынены і літаратуры дастаткова), нярэдка аказваецца, што шлях да Бога не такі ўжо просты і лёгкі, як думалася.***

***Кожны з нас лавіў сябе на думцы, што найчасцей мы ўзгадваем пра Бога, калі ўзнікаюць праблемы. І не разумеем, чаму на душы трывожна, чаму Гасподзь бывае "такі несправядлівы". Мы жывём і верым так, як нам больш звыкла і зручна, выконваючы агульнапрынятыя абрады, імкнучыся не рабіць нікому зла. Але часам "не ведаем, што робім": бо некаторыя ўчынкі і дзеянні, нармальныя і натуральныя з пазіцыі людзей, не такія ўжо нявінныя з пункта погляду нябеснага Айца нашага.***

***З іншага боку, мы не маем уяўлення пра тыя прыемныя рэчы, на якія Ён даў нам права як законным нашчадкам. І ўмовы "ўступу ў валоданне спадчынай" не такія ўжо і жорсткія. Пра іх трэба проста ведаць.***

***Менавіта ў няведанні — корань многіх нашых бед, духоўных і фізічных. Але на тое мы і людзі, каб спасцігаць, спазнаваць, удасканальвацца. А лепшым і найважнейшым "інструментам" гэтага была і застаецца свяшчэнная кніга — Біблія.***

***Мы пачынаем на старонках "Культуры" нешта накшталт біблейскай школы. Гэта будзе цыкл гутарак, дзе скрозь прызму Слова Боскага аўтары паспрабуюць адказаць на некаторыя пытанні быцця і рэлігіі. Будзем рады, калі ў нейкіх старых, нібы свет, ісцінах вы адкрыеце для сябе нешта новае і карыснае. І шчыра спадзяёмся, што чытачы стануць актыўнымі суразмоўцамі нашага госця — святара Генадзя ЗАБЛОЦКАГА.***

**— Набліжаецца Вялікдзень, найвялікшае для ўсіх хрысціян свята. Але вось парадокс: нягледзячы на ягоную шматвекавую гісторыю, многія не ведаюць сутнасці, вытокаў гэтага свята, блытаюцца ў пытанні пра роднасць яго з іудзейскай Пасхай. Мабыць, невыпадкова два святы розных культур маюць адзіную назву?**

— Больш за тое, да IV стагоддзя новай эры хрысціяне адзначалі свой Вялікдзень адначасова з іудзейскай Пасхай і разышліся ў тэрмінах яны толькі ў 325 годзе паводле рашэння Першага Сусветнага сабора хрысціянскай царквы.

Вялікдзень сягае сваімі каранямі глыбока ў гісторыю ізраільскага народа. Але ведаць вытокі гэтага свята трэба, каб лепей і больш поўна асэнсаваць значэнне іншай падзеі — смерці і ўваскрасення Ісуса Хрыста.

У перакладзе са старажытнагабрайскай слова "Пасха" ("Песах") азначае "прайсці міма". Пра што ж ідзе гаворка?



УВАСКРАСЕННЕ. Гравюра Юліюса Шнор фон Каральсфельда.

Біблія распавядае пра гэта ўпершыню ў дванаццатым раздзеле кнігі Зыходу. 430 гадоў ізраільскі народ знаходзіўся ў палоне ў егіпцян. Гасподзь праз свайго прарока Майсея выращыў вывесці ізраільцян з Егіпта. Але фараон не прыслухаўся да просьбаў Майсея адпусціць палонных, не спалохаўся нават пакаранняў, якія былі дасланыя на Егіпет звыш. І тады Бог аб'явіў апошняе, дзесятае, бадай, самае жорсткае пакаранне: знішчыць усіх першынцаў "ад сына фараона да дзіцяці рабыні... і ўсяго першароднага ад скаціны". Каб зберагчы ад гэтай долі ізраільскі народ, Бог загадаў кожнай сям'і забіць, засмажыць і з'есці ахвярнае ягня ("агнца"), а ягонай крывёю намазаць дзверы сваіх дамоў. Гэта з'явілася знакам для анёла-забойцы: у "пазначаны" дом не заходзіць. У тую ноч здзейснілася страшэннае пакаранне, пасля якога фараон не рабіў больш перашкодаў іудзеям, і Майсей вывеў ізраільскі народ з Егіпта. У гонар цудоўнага выратавання Богам Свайго народа і было заснаванае свята Пасхі.

**— І як жа звязаны паміж сабою гэтая старажытная падзея і той Вялікдзень, які святкуюць хрысціяне?**

— Па-першае, гістарычна яны супадаюць па часе: смерць і ўваскрасенне Ісуса Хрыста адбыліся менавіта ў дні святкавання Пасхі ў Іудзеі. І ў гэтым, відавочна, была Боская задума, бо на Вялікдзень Іерусалім поўніўся людзьмі як ніколі... А па-другое, і гэта асабліва важна, існуе духоўная сувязь паміж гэтымі дзвюма падзеямі. У Егіпце была пралітая кроў ягняці, прынесенага ў якасці ахвяры Богу дзеля выратавання ізраільцян. У Іерусаліме таксама пралілася ахвярная кроў — кроў Ісуса Хрыста, які загладзіў грахі чалавецтва і паклаў пачатак Новага Запавету.

Як вядома з Евангелля, у пятніцу Хрыстос быў распяты на Галгофскім крыжы. Яго пахавалі да наступлення суботы — святога для іудзеяў дня спакою, а праз дзень Ён уваскрос. І гэтае вялікае Уваскрасенне — Вялікдзень — святкуе ўвесь хрысціянскі свет.

**— У чым усё ж такі сэнс смерці і ўваскрасення Хрыста для кожнага з нас? Хай гэтае пытанне не падасца камусьці непатрэбным. Бо, як многія мяркуюць (і з гэтым цяжка спрачацца), мала што змянілася ў жыцці чалавецтва з тае пары. Людзі па-ранейшаму грашаць, свет перапоўнены зласлівасцю і гвалтам...**

— І ў гэтым — трагедыя чалавецтва. Гасподзь стварыў людзей "паводле вобраза і падабенства Свайго" для духоўных стасункаў. Аднак, маючы магчымасць свабоднага выбару, чалавек занадта часта, на жаль, становіцца на шлях, што вядзе не да Бога, а наадварот — ад Яго — да духоўнай смерці. "Але ў тым любоў, — кажа ў першым пасланні апостал Іаан, — што не мы палюбілі Бога, а Ён палюбіў нас і паслаў Сына Свайго, каб загладзіць грахі нашыя".

Калі Ісус памёр на крыжы, сведчыць Евангелле, "заслона ў храме разадралася на дзве часткі, зверху данізу". З самага пачатку існавання храмаў (і іхняга папярэдніка — скініі сходаў, пабудаванай Майсеем) гэтая заслона аддзяляла месца, куды для зносінаў з Богам прыходзілі простыя смяротныя, ад святога святых. Там прысутнічала слава Боская, там быў Сам Гасподзь. Разам са смерцю Хрыста адбылося тое, дзеля чаго Ён пакутаваў: апошняя перашкода паміж чалавекам і Богам знікла, "разадралася". Сталі магчымымі непасрэдныя стасункі з Усявышнім і духоўная несмяротнасць. З таго моманту кожны чалавек — калі пажадае! — можа набыць Айца Нябеснага. Але зрабіць гэта можна толькі праз Ісуса Хрыста: "Ніхто не прыходзіць да Айца, як толькі праз Мяне..."

**— І што азначаюць гэтыя словы?**

— Усе мы парушылі закон Боскі, а пакаранне за грэх — смерць. Ісус быў ахвяраваны гэтаксама, як тысячагоддзі да гэтага прыносілі ў якасці ахвяры скаціну. Але гэта была не проста ахвяра, што загладзіла нейкі канкрэтны грэх асобнага чалавека. Хрыстос "разлічыўся" за ўсіх грэшнікаў мінулага і будучыні. Ён узяў на Сябе не толькі нашыя грахі, але і хваробы, і праклёны. І сышоў у Апраметную, але не для таго, каб там застацца, а каб пакінуць там усё нячыстае і забраць у Д'ябла ключы ад пекла і смерці. Ісус уваскрос як Пераможца, бо меў ужо ўладу над жыццём і смерцю. Ён мае ўладу — даць нам вечнае жыццё альбо вечныя пакуты. Не паводле Свайго жадання, а зыходзячы з нашага выбару. І калі мы праз шчырае пакаянне прыходзім да Ісуса Хрыста, верачы ў Яго і жывучы паводле Ягоных запаветаў, дык атрымліваем вечнае жыццё. Калі абіраем іншы шлях, дык і вынік будзе іншым.

Важна ведаць, што абяцанні (абетаванні) Боскія тычацца не толькі далёкай перспектывы — жыцця пасля смерці, — але і нашага сённяшняга існавання. Дзякуючы Ісусу Хрысту мы маем права на жыццё, у здароўі, дабрабыце і, безумоўна, на стасункі з Богам... Але пра гэта — іншым разам.

Хачу пажадаць вам, шаноўныя чытачы, каб сёлетні Вялікдзень запомніўся вам не толькі і не столькі кулічамі і фарбаванымі яйкамі. Галоўнае — паверце і адчуйце, што Гасподзь — з вамі і Ён любіць вас. І хай будзе светла і радасна ў кожнага на душы!

**З айцом Генадзем гутарыла**
**Магда ЖЫВІЦА**

# БЕЛАРУСАЎ

у разглядаемым працэсе. Ёсць падстава сцвярджаць, што асноўныя рысы беларускай душы сфарміраваліся да прыняцця хрысціянства — у гэтым нас пераконваюць матывы старажытнабеларускага язычніцкага фальклору. Тым больш, што доўгі час нашы даўнія суайчыннікі заставаліся непаўнапраўнымі паганцамі, што прымалі новую веру чыста знешне, не пускаючы яе ў таямніцы свайго сэрца. Толькі тое з яе магло разлічваць на жыццяздольнасць у іхніх розумах, што адпавядала ранейшым поглядам язычніцкай міфалогіі і жыццёвай філасофіі. А ўвогуле, больш, чым хто-небудзь, беларусы заставаліся ў гісторыі шчырымі і сумленнымі, чыстымі і наіўнымі носьбітамі хрысціянскай маралі, таму што задоўга да яе яны мелі падобнага бога ў сэрцы.

Язычніцкая міфалогія нашых продкаў пры ўсёй сваёй вычварнай фантазіі і баязлівым трапятанні перад рознымі духамі ўсё ж такі прасякнута жывым чалавечым пачуццём з неперадавальнай жыццярадаснасцю і сонечным аптымізмам. У ёй замест суровага аскетычнага прыніжэння, знявагі чалавека перад недасягальным тварам бога мы назіраем спробу мірнага раўнапраўнага суіснавання звычайнага, простага, зямнога і трансцэндэнтнага, незразумелага і таямнічага. Богі і духі ў язычніцкім пантэоне вышэйшых істот звычайна пазбаўлены празмернай жорсткасці і недасягальнай магутнасці, многія з іх адносна паблажлівыя і прыхільныя да чалавека, прынамсі з імі заўсёды можна было дамовіцца шчодрымі ахвярамі, традыцыйнымі заклінаннямі і абрадамі. І калі праўда, што чалавек стварае багоў па свайму падабенству, то гэта вельмі выразна праявілася менавіта на беларускай зямлі.

Гуманістычныя, чалавекалюбівыя матывы выразна прасочваюцца ў многіх язычніцкіх вераваннях старажытных беларусаў. Як, напрыклад, людзі шкадавалі бедных русалак, якія былі пазбаўлены магчымасці вярнуцца да сваіх былых хат і жывых людзей —толькі і заставалася ім у суме і роспачы прасіць у жывых дзяўчат іхніх упрыгожванняў. Аб гэтым пелася ў дайшоўшых да нас так званых русальных песнях. А ці лёгка прыходзілася пакутнікам-ваўкалакам, пакараным кімсьці за свае дрэнныя мінулыя ўчынкі? Найбольш жа яскрава гуманістычная тэма адлюстравалася ў характары адносін старажытных славян да сваіх памерлых продкаў, пахаванне і памінанне якіх былі прадметамі асаблівага клопату.

Уражвае жыццярадасны аптымістычны змест язычніцкай міфалагічна-абрадавай культуры беларусаў. Ён наскрозь прасякнуты духам веры ў лепшы заўтрашні дзень, бадзёрым пачуццём працоўнага энтузіязму, перададчуваннем добрых дароў прыроды і яе духаў за вялікія фізічныя намаганні чалавека. У старажытным беларускім фальклоры назіраецца нейкая спакойная зямная ўпэўненасць, што ўсё будзе добра, што прырода не пакрыўдзіць людзей як сваіх дзяцей і лепшых сяброў, якія прагнуць жыць у трывалай згодзе з ёй. У ім існуе непахісная вера ў мудрасць прыродных сіл і жаданне людзей пранікнуцца ёю, далучыцца да сусветнай гармоніі зямлі і неба, здабыўшы ў гэтым з'яднанні для сябе сілу, розум і маральную дасканаласць.

Культ жыцця і добрага жыватворнага яго пачатку — вось што было найбольш прывабнай рысай у старажытнаславянскім язычніцтве. Безумоўна, у жыцці носьбітаў дахрысціянскай духоўнасці былі розныя выпадкі і з'явы, народжаныя суровымі ўмовамі жыцця. Ніяк не абыходзілася і без жорсткасці, войнаў, розных дурных нораваў. Але светлы чысты дух язычніцкіх святаў і абрадаў, іхніх фальклорных элементаў сведчыць аб тым, што галоўнае месца ў дахрысціянскай маралі і тагачасным светаўспрыманні займалі ўсё ж такі прыродная дабрыня, імкненне да гармоніі і згоды з навакольным светам, ушанаванне галоўных неад'емных каштоўнасцей жыцця. Нашы старажытныя папярэднікі былі ў пэўным сэнсе дзецьмі сонца са стыхійным падсвядомым імкненнем да высокага маральнага ідэалу і дасканалага жыцця.

Арганічным працягам беларускай гуманістычнай думкі з'яўляецца такая адметная рыса характару нашага народа, як яго славутая памяркоўнасць, адмоўныя адносіны да радыкальных сродкаў вырашэння тых ці іншых праблем жыцця. Прыродная абачлівасць і разважлівасць беларуса заканамерна і вельмі натуральна вынікалі з усіх умоў яго штодзённага побыту, грунтоўнай нетаропкай працы на сельскагаспадарчай ніве, што патрабавала не столькі смелай рашучасці, энергічнай волі, мужнай рызыкі, колькі карпатлівага цярпення, старраннай развагі, няспыннага клопату. Зямля патрабавала асаблівых характараў — з ёй не маглі ўжыцца воіны, гандляры, скамарохі, чыё жыццёвае існаванне праходзіла ў зусім іншым рытме і з іншымі каштоўнасцямі. Яна заклікала да сябе менавіта працаўнікоў, сейбітаў, людзей грунтоўных і сур'ёзных, у якіх за іхнімі вечнымі клопатамі проста не было часу для братазабойчай варажнечы паміж сабой. Дрэнна радзіла зямля, якая палівалася крывёю — яна патрабавала міру, згоды, аднадушнасці над сабой. Яна не разумела мітусні, неабдуманасці, рэзкасці нораваў. На ёй нельга было працаваць жорсткім, раз'юшаным, апантаным — прыблізна так нельга было нервова бегчы з цяжкімі вёдрамі, напоўненымі да верху вадой.

Здавалася, і сама беларуская прырода працавала над стварэннем характараў людзей. Умераныя кліматычныя ўмовы, сярэднія тэмпературныя паказчыкі не садзейнічалі наліццю вен мясцовых жыхароў гарачай крывёю, замацаванню рэзкіх вуглоў у іхніх тэмпераментах. Тут не было дзікага вольнага ветру пустынь, гор, стэпаў, які б раз'яднаў людзей, баламуціў іх розумы п'янай свабодай, захоўваў воўчую першабытнасць нораваў, абвяваў зручныя пляцоўкі для бітваў. Тут было іншае — павольныя ціхія рэкі і прыгожыя блакітныя азёры, якія быццам самім богам прызначаліся змякчаць людскія сэрцы сваім хараством, прывольныя спакойныя лугі і даліны, сярод траў і кветак якіх добра марылася і не хацелася думаць аб чымсьці дрэнным, бяскрайныя дрымучыя лясы з іхнімі драпежнымі жывёламі, небяспечная багна непраходных балот, моцныя снежныя віхуры і трыскучыя маразы — перад усім гэтым не маглі разгарэцца чалавечыя страсці, сваркі і бойкі. Людзі мусілі быць разам, як тыя ж расліны, дрэвы, кветкі вакол іх.

**Сяргей КВІЦЕНЬ**

*(Заканчэнне будзе.)*

***Калі тэатр і пачынаецца з вешалкі, дык не заўсёды і не ва ўсіх. Доказ гэтаму — Маскоўскія тэатральныя студыі канца 80-х гадоў, Мінскі "Альтэрнатыўны" ды, мабыць, Гомельскі "Незалежны тэатр", якому сёлета споўнілася пяць гадоў. Прадстаўнікі mass-media не асабліва напружваліся з нагоды першага юбілею тэатра. Такім чынам на працягу свайго законнага існавання тэатр знаходзіўся не толькі ў зоне радыяцыйнага забруджання, але і ў шчыльным коле маўчання. "Сталкераў друкаванага слова" насцярожвала словазлучэнне — "прыватны тэатр". Хаця на адкрыццё першага сезона прыязджалі прадстаўнікі афіцыйнага тэатральнага бамонда сталіцы...***

# АНДЭГРАЎНД ГОМЕЛЬСКАГА "НЕЗАЛЕЖНАГА"

Акцёры "Незалежнага тэатра" дасюль чакаюць членскіх білетаў Гомельскага аддзялення Саюза тэатральных дзеячаў, і ўнёскі ўжо даўно заплочаныя... Не, гэта толькі дробязная дэталь, але, як вядома, жыццё нашае складаецца менавіта з дробязяў.

Не сакрэт, што ў нашай краіне існуюць пэўныя правілы гульні ў кожным творчым саюзе. Быць сябрам такога саюза — пацвярджэнне прызнання прафесіяналамі і, нарэшце, вольны доступ на тэатральныя мерапрыемствы, што наладжваюцца на Беларусі. Магчыма, таму гомельскія гарадскія ўлады дасюль абыякава ставяцца да тэатра: "паглядзець трэба..." Але ж па вялікім рахунку гэтае маўчанне — золата. Бо адна толькі назва тэатра ў сучасных умовах ужо выклікае небяспечныя пытанні. Любая прыватная ініцыятыва ў нас ужо сама па сабе падазроная, а калі прадпрыемства яшчэ і прыбыткаў не дае, бо "вырабляе" спектаклі, дык гэта ўжо зусім... Асабліва кідаецца ў вочы таму-сяму надпіс над дзвярыма: "Фундатар: Рыгор Фіглін".



Прынцып "мастацтва належыць народу" нам добра знаёмы. Словы "спонсар" і "мецэнат" — таксама, хаця, на маю думку, асаблівай розніцы паміж імі няма, бо абодва яны салодкія для нашага вуха. Затое я ўпэўнена, што "паханізацыя" вытворчасці ў маштабах усёй краіны адбылася без уліку інтарэсаў мастацтва. І што ў выніку? Цяпер сур'ёзны прадпрымальнік наўрад ці зробіць стаўку на прадукцыю "гульні ўяўлення". Хутчэй, ён зробіць тэатру аднаразовае "ўліванне" капіталу, але — не больш. Ну, можа, яшчэ дзве-тры пастаноўкі прафінансуе — для куражу. Пастаянны донар — дзяржава. Добра. Толькі мы чамусьці ніяк не можам зразумець, што такі інстытут, як тэатр, не менш важны для дзяржавы, чым, скажам, хлебныя крамы падчас жорсткай інфляцыі. Іншая справа, калі прыдворныя тэатры "харчуюцца" п'есамі-дзяржзамовамі. Стала заўважнай новая тэндэнцыя — "тэатр адзінага гледача", якім можа стаць сам драматург — сучасны класік. А, увогуле, гаворка не пра гэта. Гісторыя, напэўна, усё спіша на "цяжкі, змрочны час".

"Незалежны тэатр" не мае нічога, акрамя залежнасці ад Ягонай Вялікасці Гледача. Гэта пакуль што адзіны ў краіне прыватны тэатр, які існаваў на грошы гамяльчаніна Рыгора Фігліна. А яго забілі ў Маскве, дзе ён жыў апошнім часам... Але не толькі гэтым трагічным фактам знакаміта сям'я Фігліных. Характэрнае для Гомеля прозвішча заснавальніка новага гомельскага тэатра мае свае гістарычныя карані, звязаныя не толькі са сцэнай, але і з літаратурай. Напрыклад, Якаў Фіглін, які да вайны быў рэдактарам аднаго маскоўскага перыядычнага выдання, альбо пісьменніца Ксенія Драгунская, сваячка Фігліных, якая нават напісала п'есу адмыслова для "Незалежнага тэатра".

Заканамернай выпадковасцю можна назваць сустрэчу бізнесмена Рыгора Фігліна і рэжысёра Якава Натапава, якая вылілася ў выніку ў нараджэнне новага тэатра. Прычым, прыватны капітал дазволіў лідэру трупы быць свабодным ў выбары рэпертуару. Услухайцеся ў гэтыя назвы: Ф.Дарэн "Самая-самая", П.Хакс "Амфітрыён", П.Кагоўт "Гульня каралёў", Л.Герш "Гэтыя вольныя матылькі..." Адчуваеце стыль? Безумоўна. Бо аншлагі ўзнікаюць не толькі ад гучных імёнаў, прыгожай сцэнаграфіі, але і ад майстэрства выканаўцаў. Калі казаць пра імёны, дык Галіна Шофман, дырэктар тэатра, здолела захаваць тэатр і пасля забойства брата. І першае, што зрабіла гэтая жанчына, — прадала сваё лецішча, каб разлічыцца з акцёрамі і каб трупа не развалілася. Таму артысты Галіна Анчышкіна, Сяргей Чугай, Таццяна Булгакава, Андрэй Троіцкі не купаюцца ў грошах, але і шчасця ў іншых тэатрах шукаць не збіраюцца. Трупа склалася. А Андрэй Троіцкі, выпускнік Маскоўскай тэатральнай вучэльні імя М.Шчэпкіна, заслугоўвае асобнай размовы. Дадам ад сябе, што ягоны акцёрскі дыяпазон зробіць гонар любому сталічнаму тэатру...

Аднак мая гутарка з дырэктарам "Незалежнага тэатра" Галінай Шофман тычылася не толькі тэатральных справаў.

**— Што такое прыватны тэатр сёння — капрыз альбо прэстыж для заможнага чалавека?**

— Ні першае, ні другое. Хаця ў мінулым я даволі ўдала займалася бізнесам. Але спалучаць бізнес і кіраванне тэатрам немагчыма. У мяне да таго ж двое дзяцей, на выхаванне якіх мне катастрафічна не хапае ні часу, ні сіл. Калі быў жывы мой брат, дык брат быў вельмі таленавітым чалавекам: ён меў абсалютны музычны слых, скончыў музычную школу.



**— Я ведаю, што ва універсітэце, дзе вучыўся Рыгор, ёсць стыпендыя, якую заснаваў Ваш брат...**

— Так, мы існавалі на ягоныя сродкі. Дзень нараджэння Грышы — 13 кастрычніка — стаў днём адкрыцця новага сезона ў нашым тэатры. Сёння гэта ўжо традыцыя.

**— Я бачыла відэазапіс Гомельскага тэлебачання 1993 года, дзе Рыгор Фіглін удзельнічаў у імправізаваным тэатральным "капусніку". Ці быў ён "ігракам"?**

— Не. Ён быў, хутчэй, рацыянальным. Але і эмацыйным таксама. Пасля заканчэння тагачаснага Беларускага інстытута інжынераў чыгуначнага транспарту ён пераехаў у Маскву, дзе стаў адным з заснавальнікаў вядомай мастацкай студыі "АРС", якую цяпер узначальвае Ігар Крутой. Потым ён стаў акцыянерам Апрэлеўскага завода кружэлак. У яго была таксама невялікая вытворчасць у Амерыцы. Грыша імкнуўся стварыць законны бізнес... На жаль, забойцы майго брата дасюль не знойдзены. Што да тэатра, ёю ўзнагароджваюць пераможцаў конкурсу мастацкай самадзейнасці...

**— Хто цяпер узначальвае трупу?**

— Мы запрашаем рэжысёраў на пэўную пастаноўку. П'есы шукаем і знаходзім самі і доўга абмяркоўваем свой выбар. Прызнаюся, мы адчуваем драматургічны голад. Паколькі тэатр больш не мае грошай, дык пра "зорныя" імёны мы больш не марым. Акцёры і гледачы, мяркую, засталіся задаволеныя сумеснай працай з такімі рэжысёрамі як Уладзімір Караткевіч і Валерый Бартосік. Спрабуе сябе ў рэжысуры і акцёр Андрэй Троіцкі. Падчас "Маладзечанскай сакавіцы-97" мяне зачаравала пастаноўка Аляксандра Гарцуева "Крывавая Мэры". Мы плануем запрасіць яго на пастаноўку чарговай п'есы Дзмітрыя Бойкі.

**— А кажаце — цяжка жывецца...**

— Уявіце сабе, што кошты на квіткі ў 40 тысяч рублёў не акупаюць нашыя выдаткі нават на 10 працэнтаў! Здаралася, што я вымушана была адпускаць артыстаў у адпачынак "за свой кошт"... У мяне ёсць нават жарт на гэты конт: калі ў мяне ёсць доўг у два мільёны, я перажываю, што грошы давядзецца аддаваць, але калі доўг дасягае дваццаці мільёнаў — я смяюся, таму што такой сумы ў мяне няма і дзе ўзяць яе — не ведаю.

**— Вы па натуры аптымістка?**

— Так. У сям'і, дзе я нарадзілася, заўсёды казалі: "лепей пажадай сабе шчасця, чым ворагу — бяды". Але павінна адзначыць, што свет з ягоным абсурдам і людзі з іхняй праўдай і маной — сумны тэатр рэалій...

**Жанна ВАСАНСКАЯ**
*Мінск—Гомель—Мінск*

**P.S.** І нарэшце, у траўні "Незалежны тэатр" стане ўдзельнікам тэатральнага фестывалю "Славянскія сустрэчы". Упершыню. Першы крок. А раптам?..

**Ж.В.**

*На здымках: Рыгор Фіглін (апошні прыжыццёвы фотаздымак з сямейнага архіва). Дырэктар тэатра Галіна Шофман і рэжысёр з Літвы Валерый Бартосік. Трупа "Незалежнага тэатра" з Гомеля. Малюнкі акцёра Андрэя Троіцкага.*





*Наступны (здвоены) нумар газеты "Культура" выйдзе ў свет 10 мая 1997 г.*



К КУЛЬТУРА
**ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА - АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА**
выдаецца з кастрычніка 1991 года
Заснавальнік —
**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**
Галоўны рэдактар —
**Людміла КРУШЫНСКАЯ**

Рэдакцыйная калегія:
**Валянцін АКУДОВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Арсен ВАНІЦКІ, Андрэй ВАШКЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГІЛЕП, Ніна ЗАГОРСКАЯ, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Вольга ІПАТАВА, Ігар КЛОКАЎ, Анатоль КУДРАВЕЦ, Мікола КУПАВА, Алена ПІСЬМЯНКОВА, Валерый СКВАРЦОЎ, Алег ТРУСАЎ, Васіль ШАРАНГОВІЧ**

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1,
Тэлефон: (017) 276-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Падпісана ў свет 24.04.97. у 15.00.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Фармат А3. Індэкс 63875
Агульны наклад 3554
Замова 2421
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.
**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**